E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 4(9) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА САКАВІК 2003 ГОДА ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773

# У гадзіну небяспекі




Фота У. Шлапака

## Рэзалюцыя Усебеларускага сходу інтэлігенцыі

Мы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, сабраліся напярэдадні выбітнай падзеі – 85-ай гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі – на свой першы Усебеларускі сход, каб асэнсаваць сённяшні стан грамадства і краіны і акрэсліць шляхі іх далейшага развіцця.

Наша родная Беларусь перажывае глыбокі сістэмны крызіс.

Стратэгічны курс уладаў на камандную сістэму кіравання і падаўленне дэмакратычных свабодаў прывёў краіну да міжнароднай ізаляцыі і паставіў яе эканоміку на мяжу краху.

Прамысловыя прадпрыемствы даводзяцца да банкруцтва. У катастрафічным стане сельская гаспадарка, якая без належнай аддачы паглынае велізарныя матэрыяльныя і грашовыя рэсурсы. Неразумная, грабежніцкая падатковая палітыка і адміністратыўны ўціск вядуць да скарачэння колькасці прадпрыемстваў прыватнага сектару.

Няўхільна пагаршаецца жыццёвы ўзровень насельніцтва. Сёння за рысай беднасці апынулася ўжо больш за палову насельніцтва. Расце беспрацоўе. Скарачаецца фінансаванне Чарнобыльскіх сацыяльных праграм, адсутнічае рэальная дапамога насельніцтву па абароне ад радыяцыі. Па працаздольнасці жыцця краіна апусцілася за мяжу, пасля якой пачынаецца выміранне нацыі.

Пастаянна скарачаецца фінансаванне айчыннай адукацыі, навукі, культуры. Ідзе мэтанакіраваны наступ на беларускую мову. Працягваецца сыход з краіны найбольш кваліфікаваных кадраў, асабліва з ліку моладзі.

У краіне парушаюцца асноўныя прынцыпы дэмакратыі і правы чалавека, адсутнічае вяршэнства закона, рэальны падзел і ўзаемакантроль уладаў. Адсутнасць незалежнага суда і адвакатуры не дазваляе забяспечыць гарантаваных Канстытуцыяй правоў. Пераследу і рэпрэсіям падвяргаюцца тыя, хто выказвае альтэрнатыўныя думкі і прытрымліваецца адрозных ад улады пазіцый. Пазбаўляюцца волі журналісты, знікаюць палітыкі.

Асаблівую небяспеку нясе за сабой непрадуманае развіццё адносін з Расіяй. За гучнымі дэкларацыямі аб братэрстве і партнёрскіх адносінах, пад прыкрыццём стварэння віртуальнай «саюзнай дзяржавы» хаваецца прамая пагроза паглынання эканомікі Беларусі расійскім алігархічным капіталам, знішчэння яе суверэнітэту, што з'яўляецца парушэннем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і нормаў міжнароднага права.

У гэтай сітуацыі многае залежыць ад інтэлігенцыі, ад яе мужнасці і прынцыповасці. Аднак, на жаль, многа сярод нас тых, хто займае прыстасавальніцкую пазіцыю, церпіць ганебную хлусню афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі, злачынныя маніпуляцыі на выбарах, маўчыць, калі пераследуюць калег і суайчыннікаў.

Мы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, якія сабраліся на Сход з усёй Беларусі, заклікаем прадстаўнікоў усіх інтэлектуальных прафесій, усіх грамадзян Беларусі, праявіць цвёрдасць, грамадзянскую свядомасць і волю, скансалідаваць намаганні грамадства па выхаду з крызіснай сітуацыі.

Мы выказваем рашучы пратэст супраць любых спробаў здачы незалежнасці, дзяржаўнага суверэнітэту нашай краіны, дыскрымінацыі беларускай мовы і заяўляем пра сваю гатоўнасць бараніць гэтыя святыя для кожнага грамадзяніна Беларусі каштоўнасці ўсімі магчымымі сродкамі і спосабамі.

Працяг на стар. 2

Угодкі БНР

## Зварот да беларускага народа

З нагоды сьвята 25-га сакавіка Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі спадарыня Івонка Сурвіла зьвярнулася з адкрытым лістом да народа. Яна нагадвае, што «за 20-ты век Беларусь страціла больш за палову свайго насельніцтва. Нас вывозілі, расстрэльвалі катавалі. Адбіралі ад нас нашу маёмасьць, нашую гістарычную памяць, нашую мову. А мы глядзелі на ўсё гэта. І чакалі, што нешта зьменіцца без нашага ўдзелу... Цяпер жа сьвет нас не разумее. Не разумее народу, які не хоча ведаць, дзе праўда, а дзе прапаганда, дзе справядлівасьць ды людзкая годнасьць, а дзе няволя ды генацыд».

Івонка Сурвіла адзначае: «Расейскі фактар адыгрывае безумоўна вялікую ролю. Масква ніяк не можа пагадзіцца з тым, што на яе дарозе ў Калініград ды ў Эўропу знаходзіцца незалежная дзяржава, зь якою трэба лічыцца. Усё будзе рабіць, каб нас неяк уключыць у сваю імпэрыю. Але Масква нічога не зможа зрабіць супраць нас, калі мы гэтага не дапусьцім. Час прачнуцца! Час абвесьціць сьвету, што мы хочам быць вольнымі і незалежнымі, што мы больш не дазволім нікому нас прадаваць!

Толькі ў сваёй уласнай, незалежнай краіне, мы абаронім тыя чалавечыя правы, якімі карыстаецца ўвесь цывілізаваны сьвет. Толькі калі будзем гаспадарамі яе, будзем жыць так, як жывуць людзі ўва ўсіх нармальных краінах сьвету. Але гэта не станецца без нас, без нашага ўдзелу. Прыпомнім яшчэ раз словы нашага прарока Янкі Купалы:

*Паўстань народ! Для будучыні шчасьце*
*Ты строй, каб пут ня строіў больш сусед.*
*Ня дайся ў гэты грозны час прапасьці –*
*Прапашчых не пацешыць шчасьцем сьвет.*

## З Днём Волі!

85 гадоў таму вясновым сакавіцкім днём, на Звеставанне, была абвешчана незалежнасць нашай краіны. Беларуская нацыя скарыстала свой гістарычны шанец і заявіла пра сябе. На мапе Еўропы замест «Северо-Западного Края» з'явілася Беларуская Народная Рэспубліка. З'явілася, каб у 1991 годзе стаць незалежнай, прызнанай сусветнай супольнасцю, краінай у цэнтры Еўропы.

Дарагія суайчыннікі! Грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны» віншуе Вас з надыходам вялікага свята, заклікае заўсёды несці ў сваім сэрцы ідэалы БНР! Мы ўпэўнены, што недалёка той час, калі 25 сакавіка назаўжды стане галоўным святам у нашай краіне.

**Сакратарыят ТБМ**





# Рэзалюцыя Усебеларускага сходу інтэлігенцыі

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1

Мы выступаем катэгарычна супраць працягу паўнамоцтваў цяперашнягя кіраўніка Рэспублікі Беларусь пасля 2006 года.

Мы абвяшчаем пра намер зрабіць усё, каб выбары новага Парламента ў 2004 годзе і новага Прэзідэнта ў 2006 годзе адбыліся па новым выбарчым кодэксе, у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, без адміністратыўнага ціску на выбаршчыкаў і кандыдатаў, без махінацый і падтасовак падчас галасавання, каб народ Беларусі змог зрабіць свабодны і асэнсаваны выбар.

Мы заклікаем улады Рэспублікі Беларусь звярнуцца да вопыту дэмакратычных пераўтварэнняў у цывілізаваных краінах, распачаць канструктыўны дыялог з прадстаўнікамі ўсіх палітычных плыняў грамадства. У якасці першага кроку на гэтым шляху прапануем прыняць неадкладныя меры да ўсебаковага, дакладнага і выніковага расследавання спраў аб знікненні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Змітра Завадскага, Юрася Корбана, пераглядзець судовую справу навукоўца Юрыя Бандажэўскага, вызваліць зняволеных журналістаў Віктара Івашкевіча і Паўла Мажэйку, зняць з іх, а таксама з журналіста Міколы Маркевіча судзімасць.

Мы заклікаем кіраўнікоў і сяброў палітычных партый, грамадскіх рухаў і арганізацый спыніць узаемныя папрокі, пераадолець раз'яднанасць, і перайсці да ўзгодненых дзеянняў, згуртавацца дзеля вырашэння галоўнай задачы - вярнуць Беларусь на шлях дэмакратычнага развіцця, забяспечыць ёй годнае месца ў сям'і цывілізаваных і свабодных народаў Еўрапейскага Саюза.

Усведамляючы сваю асабістую адказнасць за лёс Бацькаўшчыны і разумеючы неабходнасць пошуку арганізацыйных шляхоў для выканання пастаўленых задач, мы надаём Арганізацыйнаму камітэту Усебеларускага сходу інтэлігенцыі паўнамоцтвы каардынатара нашай дзейнасці, даручаем яму прадстаўляць нашыя інтарэсы ў Беларусі і за яе межамі, збіраць нас на Сход у выпадку крытычнай для беларускага грамадства сітуацыі, а таксама сфармаваць Раду беларускай інтэлігенцыі з ліку найбольш выбітных прадстаўнікоў грамадства.

**Мінск, 16 сакавіка 2003г.**









## Сакавіцкія падзеі

22 сакавіка 1943 года фашысцкія карнікі спалілі вёску Хатынь разам з 142 яе жыхарамі. Назва Хатынь стала сімвалаў пакутаў беларускага народа ў часе вайны з гітлераўцамі. Бо такіх вёсак, дзе фашысты спальвалі усё насельніцтва жыўцом было 628, а ўсяго носьбіты «новага парадку» ды іх памагатыя мясцовыя карнікі зруйнавалі і спалілі 9200 беларускіх вёсак. Вялікая хлусня, калі гавораць, што немцы палілі толькі «партызанскія вёскі». Ужо праз месяц пасля пачатку вайны немцы правялі ў Брэсцкай, Пінскай, Палескай абласцях аперацыю «Прыпяцкія балоты», і на працягу двух тыдняў



забілі 14 тысяч мірнага вясковага жыхарства. Хатынь – гэта боль усіх тых 3 мільёнаў нашых суайчыннікаў, у каго аднялі жыццё, гэта наш вечны смутак па гэтых ахвярах. Гэта вечная памяць пра жорсткі генацыд, што давялося зведаць беларускаму народу. Гледзячы на гэты здымак, цяжка ўявіць, што тут была вёска, жылі людзі,гучалі галасы...

1634.Нарадзіўся слынны беларускі філосаф з трагічным лёсам Казімір Лышчынскі, які напісаў трактат аб неіснаванні бога. Лышчынскага за гэта пакаралі смерцю: адсеклі галаву, а пасля цела спалілі на вогнішчы.

1928. Нарадзіўся адзін з самых культавых пісьменнікаў нашага часу калумбіец Габрыель Гарсія Маркес, лаўрэат Нобелеўскай прэміі за 1982 год. Маркес – аўтар такіх вядомых твораў, як сацыяльна-палітычная аповесць «Палкоўніку ніхто не піша», антытыранічны гратэскны раман «Восень патрыярха», фантасмагарычны раман-эпапея «Сто гадоў адзіноты».

1883. Нарадзіўся беларускі драматург Францішак Аляхновіч, адзін з стваральнікаў нацыянальнага тэатра. Ён аўтар такіх п'есаў, як «На Антокалі», «Чорт і баба», «Бутрым Няміра», «Пан міністр». У 1926 годзе ў Мінску Аляхновіча арыштоўваюць і выпраўляюць на Салаўкі. У 1933 годзе ён быў абменены савецкімі ўладамі на зняволенага ў Польшчы Браніслава Тарашкевіча і апынуўся ў Вільні.

44 да н.э. Пайшоў з жыцця Гай Юлій Цэзар, які вымавіў славутую фразу «Прыйшоў, убачыў, перамог». Ён жа сказаў «І ты, Брут...», калі сярод змоўшчыкаў, якія сталі яго забіваць, угледзеў свайго няроднага сына.

1893. Нарадзіўся беларускі пісьменнік Андрэй Мрый, аўтар камічнага рамана «Запіскі Самсона Самасуя», нічым не горшага за «Сабачае сэрца» і «Залатое цяля».

# Навука юрыспрудэнцыі

Паважаная рэдакцыя! Прычынай майго звароту стаў ліст з пракуратуры г.Мінска, якім мне безпадстаўна з парушэннем дзейнага заканадаўства адмоўлена ў атрыманні адказу на нацыянальнай і дзяржаўнай мове. З пракурорскага адказу выразна бачна, што родная мова прымусова выціскаецца з ужытку нягледзячы на тое, што адпаведныя артыкулы Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» і Канстытуцыя Рэспублікі гарантуюць яе грамадзянам атрыманне інфармацыі з дзяржаўных устаноў на той мове з ліку дзвюх дзяржаўных, на якой яны звярталіся ў гэтую установу. Больш за тое, артыкул 6 гэтага Закона сцвярджае, што ўсялякія прывілеі ці абмежаванні па моўных прыкметах недапушчальныя, а частка 3 артыкула 14 прадугледжвае атрыманне адказу ў перакладзе на тую дзяржаўную мову, якой валодае грамадзянін.

Апошняя акалічнасць зыходзіць з таго, што артыкул 17 Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» не вызначае мову, на якой ажыцяўляецца перапіска пры правядзенні пракурорскага нагляду з грамадзянамі РБ, таму ў такім выпадку трэба карыстацца менавіта часткай 3 артыкула 14, што праігнараваў выконваючы абавязкі начальніка аддзела агульнага нагляду пракуратуры г. Мінска юрыст 2-га класу С.В.Лысенак, даючы адказ.

Вынаходніцтвы гэтага паважанага юрыста на глебе юрыдычнага пустазелля на гэтым не закончваюцца. Таму ён прапануе мне звярнуцца для перакладу адказу на беларускую мову ў нейкія міфічныя «соответствующие организациии», ведаючы што яго прапанова незаконная як і незаконная адмова даць адказ грамадзяніну на дзяржаўнай нацыянальнай (беларускай) мове. Тым болей, што Закон «Аб мовах», як дарэчы, і іншыя заканадаўчыя акты краіны, не прадугледжвае і не вызначае ўстановы, якія могуць ці павінны рабіць пераклады афіцыйных адказаў з дзяржаўных устаноў з адной дзяржаўнай мовы на другую.

Чытаючы падобныя шэдэўры кручкатворства такіх службоўцаў, як сп. Лысенок, становіцца неяк няёмка за іх бязглуздасць, недарэчнасць і поўную бездапаможнасць у вырашэнні канкрэтных элементарных пытанняў, якія пазначаны ў звароце да іх. Складаецца нават уражанне, што іх адказы разлічаны не на разумнага і адукаванага чалавека, а ў лепшым выпадку на прадстаўнікоў палаты № 6, якія нездольныя зразумець, аб чым ідзе гаворка.

Такія прыкрыя дзеянні дзяржаўнага службоўцы немагчыма нават уявіць у якой іншай краіне свету. А ў Беларусіт – гэта рэальнасць, якая палягае ў бесцырымонным і беспакараным абмяжавані законных правоў грамадзян чыноўнікам, што наносіць абразу гонару і годнасці чалавека, а таксама зневажае яго як грамадзяніна гэтай дзяржавы.

**Эльяш Банель, інжынер**
**Мінск**

Ответ прокуратуры города Минска от 06.12.2002 за № 7-33-97 оформлен на одном из государственных языков Республики Беларусь – русском.

Таким образом, если Вы не владеете в полном мере русским языком, для понимания смысла ответа прокуратуры города Минска от 06.12.2002 за №7-33-97, Вы вправе обратиться в соответствующие организации для его перевода на белорусский язык.

И.о. начальника отдела общего надзора
прокуратуры города Минска
юрист 2-го класса С.В. Лысенок

Мужыцкая праўда

Першая беларуская газета, заснаваная ў 1863 годзе

# Не спі! Праспіш Радзіму!

Дзецюкі! Нарэшце беларуская інтэлігенцыя вырашыла аб'яднаць свае сілы. Ідэя гэткага аб'яднальнага Сходу нарадзілася неўзабаве пасля лёгкадумных паводзінаў апазіцыйных партыяў і рухаў у часе прэзідэнцкіх выбараў 2001 года. Недарэчныя пошукі так званага адзінага кандыдата абярнуліся поўнай стратай народнага даверу да ўсёй апазіцыйнай партыйнай эліты, здольнай так проста паступацца прынцыпамі. Аднак ніводная партыя ці рух не зрабілі патрэбных высноваў, не змянілі кіраўніцтва, не звярнуліся да сваіх падманутых прыхільнікаў са словамі пакаяння. Упэўненыя ў сваёй незаменнасці, яны засталіся страшэнна далёка ад народа. Таму інтэлігенцыя мусіць замяніць іх на страчанай імі прасторы – бо час надта адказны. Па сутнасці, правядзенне Сходу дэманструе грамадскую абыякавасць да дзейнасці ранейшых палітычных суполак і вялізныя спадзяванні на новыя сілы.

Сітуацыя ў краіне складаецца такім чынам, што на галоўнае месца высунулася пагроза этнакультурнага знікнення беларусаў. Палітыка ўладаў і ўсёй свядомай і несвядомай пятай калоны прывяла да таго, што выціснута з ужытку мова, беларуская культура задыхаецца пад ціскам расейшчыны, а скарыстанне на афіцыйным, урадавым узроўні словаў «Беларусь», «беларускі» набыло характар цынічнага скарыстання дзяржаўнай шыльды. Жаданне Расеі заглынуць Беларусь ужо публічна агучана вуснамі расейскага прэзідэнта, а ў адказ кіраўніцтва нашай краіны паспяшалася завершыць працу над Канстытуцыйным актам, які можа паставіць на Беларусі гістарычны крыж. Беларускае чынавенства, вырашаючы свае дробныя інтарэсы, не разумеючы, што робіць, не ўсведамляючы наступстваў, вядзе дзяржаву, народ, ды і саміх сябе, ў палітычны нябыт.

Адзіная ідэя, якая можа аб'яднаць інтэлігенцыю розных поглядаў і розных заняткаў – гэта захаванне незалежнасці краіны, захаванне эканамічнага падмурку незалежнасці дзяржавы, захаванне дзяржаўных інстытутаў, якія забяспечваюць існаванне Беларусі ў свеце. Іншага месца нам на зямной кулі няма і ніхто не дасць. Нельга пачувацца мігрантамі на роднай зямлі, здраджваць ёй, рахмана задавальняючы геапалітычныя апетыты суседа!




# Філасофія самасці

У нашай гісторыі багата выбітных асобаў, якія маглі б скласці гонар любой краіны. Але ў Беларусі яны неяк прыкра не маюць належнай пашаны ці, калі заўгодна, па-сучаснаму – раскруткі. Як вам здаецца, пра каго беларусы маглі б сказаць, што вось ён – гэта «наша ўсё»? Ці ёсць наогул з каго выбіраць на такі сімвал нацыі? Калі ёсць, то чаму ніша такога сімвалу-персоны дагэтуль пустуе?

## Не наша ўсё

7 чэрвеня 1926 года ў Барселоне быў пушчаны першы трамвай. Граў аркестр, гучалі ўрачыстыя прамовы, натоўп шумна вітаў, як з месца крануўся чырвоны вагон. Ужо праз колькі гадзін гэты трамвай задавіў першую ахвяру. Гэта быў жабрак, які не меў пры сабе ніякіх дакументаў. Яго адвезлі ў клініку для бедных і бадзяжнікаў, непадалёк ад шыкоўнага барселонскага Сабора святога сямейства славутага архітэктара Антоніо Гаўды. Там стары жабрак і памёр. Яго ўжо збіраліся пахаваць у агульнай магіле, але раптам нябожчыка пазнала адна з кабетаў...

Уся Барселона ўдалася ў шок, бо гэта быў менавіта Антоніо Гаўды, заснавальнік архітэктурнага стылю мадэрн і аўтар самых вядомых барселонскіх збудаванняў. Папулярнасць Гаўды ў Барселоне да гэтай пары роўная ягонаму таленту. Барселонцы кажуць: «Гаўды – гэта наша ўсё». Такая вось іронія лёсу.

«Пушкін – наша ўсё!» – гавораць у Расіі. А хто наша ўсё у нас, у беларусаў? Яно надта не патрыятычна, але, на жаль, ніхто.

## Скарына ці Лукашэнка?

«Наша ўсё» Гаўды і Пушкін – гэта візітоўкі барселонцаў і расейцаў для астатняга свету. У першым выпадку – архітэктуры, у другім – літаратуры. У свеце збольшага не ведаюць нават пра такую краіну Беларусь, ужо не кажучы пра нейкіх асобных ейных прадстаўнікоў. Хоць тым не менш для інтарэсу можна вывесці рэйтынг папулярнасці беларусаў у свеце. Міцкевіч, які стаіць на Парнасе сусветнай літаратуры, не ніжэй за Пушкіна? Але ж, апрача палякаў, ніхто і не ведае, што аўтар «Пана Тадэвуша» і «Дзядоў» беларус. Шасціразовы алімпійскі чэмпіён па спартовай гімнастыцы Віталь Шчэрба? Слава нацыі праз спорт – гэта досыць прымітыўна, а да ўсяго тут няма ніякай нацыянальнай аздобы. Плюс такая папулярнасць часовая. Зрэшты, як і цяперашняя палітычная вядомасць першага прэзідэнта незалежнай Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, калі, натуральна, ён не напіша што-небудзь файнае. Васіль Быкаў? Аднак жа вялікая сусветная вядомасць класіка беларускай літаратуры крыху перабольшаная. Але ўсё можа ўвобмірг змяніцца, калі гэты пісьменнік і маральны аўтарытэт атрымае Нобелеўскую прэмію.

Што казаць пра сусветную знакамітасць, калі многія славутыя гістарычныя дзеячы Беларусі малавядомыя ўнутры сваёй краіны? Як гэта ні прыкра прызнаваць, але беларусы пачытаюць вам напамяць куды болей вершаў таго ж Пушкіна, чымсьці разам узятых Купалы і Багдановіча, пералічаць значна больш рускіх цароў з дынастыі Раманавых, чымсьці князёў Вялікага княства Літоўскага. Зрэшты, і сучасных палітыкаў нашы суайчыннікі ведаюць болей з Расіі, як з Беларусі.

Натуральна, можна паўяўляць сабе, што было б, калі тыя ж беларуская гісторыя і літаратура былі як след распрапагандаваныя. Але маем тое, што маем, няма таго, што раней было, і гэтак далей. Францыск Скарына? Пра яго ведаюць усе, бо ўсе вучыліся ў школе, дзе пра нашага першадрукара гавораць ці не ў кожным класе, на слыху аднайменны праспект у Мінску...

Мо Скарына – наша ўсё?

## Не ствары сабе куміра

З аднаго боку, апрача трывала засеўшага ў вушах прозвішча, пра Скарыну мала хто ведае што канкрэтна. Ну, першадрукар, ну, асветнік. Але затое ёсць раскручаны персаніфікаваны сімвал паўнавартаснай, адукаванай і незалежнай Беларусі. І вось тут усплывае фактар ментальнасці беларусаў, які не дае ім лічыць Скарыну нашым усім. Бо беларусы надта зіндывідуалізаваныя. Кожны сам па сабе. Мая хата з краю. Беларусы не прывыклі вылучаць і рабіць сабе куміраў, ствараць культ асобы. Альбо робяць гэта з заплюшчанымі вачыма ці з кукішам у кішэні. Таму, дарэчы, у Беларусі заўсёды былі благія начальнікі: людзям было ўсё роўна, хто ім будзе, і ўсё ішло часцяком на самацёк. Такая самасць, што лічыцца заганай беларускай ментальнасці (для каго – абыякавасць, а каму – рахманасць), і не дае беларусам паўстаць як паўнавартасная нацыя. У сукупнасці яны ўяўляюць сабой аморфную біялагічную масу.

Але ж з іншага боку, гэтая самасць – натуральная і простая філасофія быцця, дзе галоўнае – не дзяржава з ейнымі атрыбутамі, а жывы чалавек. Каштоўнасцямі тут выступаюць не ўмоўная дэмакратыя з уяўнай свабодай, не калектывісцкае пачуццё зададзенай ад нараджэння прыналежнасці да нейкай нацыі, а Я і часцінкі гэтага Я – мама, бацька, жонка, дзеці, а яшчэ ўнутраная свабода і беларускасць, якіх маеш столькі, колькі можаш годна ў сабе насіць і не ўпусціць. У гэтага Я ёсць і радзіма Беларусь, толькі найперш свая ўласная (у дзесяці мільёнаў беларусаў – дзесяць мільёнаў беларусяў), такая натуральная і адна заўсёдная ад нараджэння да смерці, а потым ужо агульная, усіхняя, палітычная, якая то незалежная, то саюзная...

Таму беларусы кажуць «не наша ўсё», а «маё ўсё». А сваё, як вядома, бліжэй да цела.

Кірыла ПАЗНЯК

Янка Купала

# Прарок

Сярод маны, сярод насьмешкаў,
Знак нейкі тулячы к грудзям,
Ішоў прарок пяшчанай сьцежкай
З навукай новаю к людзям.

Праціўны вецер лез у вочы
І плачам пеў, як дзіцянё,
Зьвяр'ё зубамі грала ўночы,
Днём выла ў небе груганьнё.

А ён, ня знаючы граніцаў,
Ішоў, хістаючысь на-ўслонь;
Агонь біў толькі з-пад зраніцаў,
Вялікіх праўд сьвяты агонь.

Душа палала дзіўным жарам,
Бы з зораў выснутая ніць,
Што сьвет магла-б сваім пажарам
Авбіць і к сонцу ўваскрасіць.

Ужо з сваім аклічным словам
Прарок далёка быў вядом,
Народу шмат збудзіў к дням новым,
Даў славу братнюю братом.

Аж так дасьціг – аквечан хвалай –
Зямлі забранай сумных хат,
Дзе царства цемры панавала,
Дзе сілу ўзяў над катам кат.

Народ змарнеўшы таго краю
Свайго наэт імені ня знаў.
Як непатрэбшчына якая,
Гібеў на сьвеце і канаў.

Галовы людзі пахіліўшы,
Зямлю капалі, як краты,
Ўтапіўшы ў мёртвай ночнай цішы
Усе жаданьні яснаты.

Прарок – пасол сьвятла – ў загону
Людзей убачыўшы такім,
Маячыць стаў ім, як шалёны,
Прарочым голасам сваім:

«Паўстаньце, рабскія натуры,
Пакіньце свой адвечны сон,
Загаманеце віхрам, бурай,
Каб ажна дрогнуў ваш палон!

Глядзіце: прадзедавы косьці
Ў зямлю калісь за вас ляглі,
А вы, як збэшчаныя госьці,
Праклядцем сталі тэй зямлі.

Дзе вашы песьні жыватворны,
Дзе ў вас прарокі й дудары,
Што над пагібельнасьцяй чорнай
Віталі-б полымем зары?

Забылі ўсё, згубілі долю,
Зьмяшалі славы цьвет з гразёй
І запрадаліся ў няволю,
З душой і скурай шчэзлі ў ёй.

Пара у рукі браць паходні,
Ўставаць, ісьці ноч расьсьвятляць!
Бо што ня возьмеце сягоньня,
Таго і заўтра вам ня ўзяць.

На зло крывавым перашкодам
Ськідайце ёрмы, клічце сход,
І дайце знаць другім народам,
Які вы сільны йшчэ народ!

За мной, за мной, забраны людзе!
Я добрай доляй послан к вам
І знаю што было, што будзе,
І вас у крыўду не аддам».

Так гаварыў і з рабства клікаў
Людзей на волю той прарок,
Жкучы з трывогаю вялікай
Ад іх адказу неўнарок.

А людзі, глянуўшы на сонца,
Адказ казалі грамадой:
– Па колькі-ж нам дасі чырвонцаў,
Калі мы пойдзем за табой?

# Беларуская дзяржаўная мова

## *Стан і перспектывы развіцця*

**Алег ТРУСАЎ,**
**старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны**




Вытокі беларускай мовы, як і іншых еўрапейскіх моў, сягаюць у IX–X стагоддзі. У XIII–XVII ст. яна выконвала функцыю дзяржаўнай мовы ў адной з самых вялікіх еўрапейскіх краінаў – Вялікім княстве Літоўскім, а таксама **была мовай міжнацыянальных і міждзяржаўных зносінаў на вялікіх абшарах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.**

Нягледзячы на доўгачасовую паланізацыю і русіфікацыю, беларуская мова не знікла з моўнай мапы свету і канчаткова склалася як літаратурная мова ў другой палове XIX – пачатку XX ст. Невыпадкова наш знакаміты суайчыннік Адам Міцкевіч называў беларускую мову адной з самых прыгожых і дасканалых славянскіх моваў.

У XX ст. беларуская мова перажыла некалькі перыядаў адноснага росквіту і заняпаду, выкліканых зменлівым лёсам гісторыі Беларусі. **З 1991 па 1995 гады яна была адзінай дзяржаўнай мовай на тэрыторыі Беларусі і паступова ўваходзіла ў штодзённы ўжытак, а таксама ва ўсе сферы жыцця.**

У гэты час беларускамоўных выданняў, асабліва падручнікаў, дапаможнікаў, слоўнікаў і энцыклапедый, было надрукавана болей, чым за папярэднія чатыры стагоддзі. Была канчаткова сфармавана навуковая і тэхнічная беларуская тэрміналогія, а **ў школах у 1994/95 гадах ужо навучалася па-беларуску 75% вучняў.**Назіралася ачышчэнне мовы ад шкодных запазычанняў, была звернута ўвага на вяртанне класічнага беларускага правапісу і існаванне беларускага лацінскага алфавіту.

У часы глабалізацыі кожная нацыянальная ідэя, нават калі яе носьбіты маюць рознае этнічнае паходжанне, грунтуецца на адной канкрэтнай мове, найбольш прыдатнай для вызначэння яе аблічча і фармулёўкі асноўных мэтаў. Прыкладам можа быць нацыянальная амерыканская ідэя, славутая «амерыканская мара», якая грунтуецца на англійскай мове, і таму кожны грамадзянін ЗША незалежна ад паходжання і веравызнання мусіць ёй валодаць.

Не абмінулі гэтыя працэсы і Беларусь.

**З 1988-га, а асабліва ў 1991–1994 гадах пачалі фармавацца асноўныя пастулаты беларускай нацыянальнай ідэі на грунце гістарычнай спадчыны, гістарычных традыцый.** Пачалася карпатлівая праца па вяртанні народу гістарычнай памяці, нацыянальных сімвалаў і нацыянальнай годнасці. І асноўная барацьба разгарнулася не вакол бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні», а вакол мовы як асноўнага паказчыка адметнасці, самабытнасці і нацыянальнай існасці любога народа. Бо мова, акрамя іншых важных функцый, мае культурна-творчую функцыю і з'яўляецца адзіным сродкам пабудовы самабытнай культуры кожнага народа.

Складанасць барацьбы за мову заключалася не ў тым, дасканалая яна ці не, прыгожая ці не, мілагучная ці не. Складанасць заключалася ў тым, што мова патрабавала вялікай працы. Увядзенне ці адмена сцяга, герба, гімна тычылася невялікай колькасці людзей, і то ў парадку выканання службовых абавязкаў.

Іншая справа мова. **Супраць мовы паўстаў дзяржаўны апарат, клас чыноўнікаў, вайскоўцы і значная частка інтэлігенцыі, асабліва тэхнічнай. Бо мова закранула ўсіх і прынесла ім дадатковую нагрузку, дадатковую працу за тыя ж грошы.** І не антаганізм да мовы рухаў імі, а звычайная лянота, звычайнае гультайства. У Беларусі, як былой калоніі, разам з каланіяльнай адміністрацыяй засталася і каланіяльная тэрміналогія. Гэтая тэрміналогія з невялікімі перапынкамі насаджвалася 200 гадоў, амаль сем пакаленняў, і дасягнуць таго, каб яна за год ці два знікла, саступіла месца новай беларускай тэрміналогіі, не так проста. І гэтаму перш за ўсё заміналі **адсутнасць у краіне нацыянальнай сістэмы дзяржаўнага будаўніцтва і нацыянальнай сістэмы адукацыі.**

Таму і выкарыстала ўлада ўсе вышэйзгаданыя чыннікі, каб правесці моўны рэферэндум у 1995 г.

Пасля моўнага рэферэндуму 1995 года дзяржава не зрабіла прыкметных захадаў па рэалізацыі выказаных праз яго пажаданняў, галоўным з якіх з'яўлялася **забеспячэнне роўнасці беларускай і рускай моваў у афіцыйным жыцці.** Сёння няма аніводнай сферы, у якой была б такая роўнасць. Службовае справаводства дзяржаўнага апарату практычна цалкам абслугоўваецца рускай мовай. Падобнае можна сказаць пра вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы. Вельмі незайздроснае становішча беларускай мовы на беларускім радыё і тэлебачанні і зусім цяжкое – на кінематографе. Пры гэтым на тэлеэкран і ў радыёэфір няма доступу нашым прадстаўнікам творчай інтэлігенцыі, вядомым беларускім пісьменнікам, мастакам, кінарэжысёрам і навукоўцам. **Колькасць вучняў у нашых школах, якія працягваюць вучыцца па-беларуску, скарацілася з 75% у 1994/95 навучальным годзе да 23%.** Падпіска на беларускамоўныя выданні зменшылася ў дзесяткі разоў і зведзена практычна да нуля. Ствараецца ўражанне, што дзяржава па сваёй ці чужой волі свядома не дапускае роднае слова тытульнай нацыі краіны ў афіцыйнае жыццё.


Дом, дзе даўно не гучыць беларуская мова

Апошні раз сваю нязломную волю да выжывання беларуская мова яскрава засведчыла падчас апошняга перапісу насельніцтва Беларусі ў 1999 годзе. **86% беларускага насельніцтва Рэспублікі Беларусь назвалі беларускую мову сваёй роднай, а 37% жыхароў Беларусі афіцыйна засведчылі, што яны штодня размаўляюць па-беларуску.**

24 лютага на другім беларускім канале ў праграме «Выбар» выйшла перадача, прысвечаная будучыні беларускай мовы. У тэлефонным галасаванні прыняло ўдзел каля 26 тысячаў гледачоў і 65% выказаліся ў падтрымку яе развіцця. Гэта перадача яшчэ раз пацвердзіла вынікі перапісу і жаданне грамадзян Беларусі шырока карыстацца беларускай мовай як дзяржаўнай.

**Мы патрабуем ад уладаў Беларусі надання беларускай мове рэальнага статусу афіцыйнай дзяржаўнай мовы тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь**

У сувязі з гэтым мы патрабуем ад уладаў Беларусі **надання беларускай мове рэальнага статусу афіцыйнай дзяржаўнай мовы тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь,** а таксама адкрыцця Беларускага Нацыянальнага універсітэта з выкладаннем усіх прадметаў навучання па-беларуску. Неабходна **неадкладна аднавіць абавязковы характар вуснага экзамену па беларускай мове ў нашых школах.**

Вядучае месца ў нашай дзейнасці павінна заняць культурна-асветніцкая праца ў шырокіх колах народа. Гэта стварэнне розных курсаў па вывучэнні беларускай мовы, збор сродкаў для выдання беларускамоўных кніг, паштовак, календароў, вырабу аўдыё- і відэапрадукцыі з беларускім гучаннем.

У найбліжэйшы час неабходна прыняць новы «Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», **які павінен адпавядаць тым дэмакратычным нормам, што ўжо даўно склаліся ў большасці еўрапейскіх краін.** У першую чаргу, гэта сусветная дэкларацыя аб культурнай разнастайнасці ЮНЕСКО, што была прынятая 3 лістапада 2001 г. на 31-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ў Парыжы.

У адпаведнасці з новым Законам, **кожны дзяржаўны чыноўнік абавязаны аднолькава добра ведаць дзве дзяржаўныя мовы, вольна, без памылак пісаць і размаўляць на іх.**

Вельмі важна ў асобных артыкулах Закона дакладна вызначыць механізм узаемадачыненняў паміж беларускай, рускай і англійскай мовамі, вызначыць межы і аб'ёмы выкарыстання і вывучэння моваў нашых суседзяў (польскую, украінскую, літоўскую і латышскую мовы). Асобны артыкул Закона можа разгледзець сітуацыю з мовай ідыш як складовую частку шматэтнічнай культурнай спадчыны нашай краіны.

Новы Закон аб мовах несумненна стане важным крокам па вяртанні Беларусі ў дэмакратычную аб'яднаную Еўропу.

Калі мы хочам рэальна змяніць сітуацыю да лепшага, варта кожнаму з нас зразумець, што з XVII ст. беларуская мова з лінгвістычнага чынніка стала аб'ектам палітыкі.

Сёння адукаваны чалавек на Беларусі, які не ведае беларускай дзяржаўнай мовы, не можа лічыцца інтэлігентам. Пакуль наша інтэлігенцыя не загаворыць па-беларуску на вуліцах, на працы, з дзецьмі і ўнукамі, пакуль не стане ўсе рускамоўныя бланкі на пошце, у банку, міліцыі, падатковай інспекцыі прынцыпова запаўняць па-беларуску, яна будзе заставацца гаротнай і зняважанай пры любой уладзе. Бо любая ўлада лічыцца толькі з тымі, хто можа сябе годна абараніць. Нездарма кажуць, што беларус «заўжды размаўляе на мове начальства».

Таму нашай інтэлігенцыі варта як мага хутчэй вылучыць са сваіх шэрагаў новага нацыянальнага лідэра, які ў любых абставінах будзе лёгка і нязмушана карыстацца беларускай мовай.

Як толькі народ убачыць, што на змену малаадукаванай, «сярмяжнай» уладзе з яе «трасянкай» і рускім жаргонам ідуць высокакультурныя людзі, якія, акрамя беларускай, ведаюць і іншыя еўрапейскія мовы, але пераважна карыстаюцца сваёй, поспех новаму лідэру і яго «камандзе» забяспечаны.

Таму **вырашыць моўнае пытанне наша духоўная эліта зможа толькі сваім актыўным удзелам у палітычнай барацьбе**, калі вядучымі палітыкамі краіны стануць яе лепшыя прадстаўнікі. Спадзяюся, што Усебеларускі сход нашай інтэлігенцыі зможа паскорыць гэты палітычны працэс.

# Экзотическая экономика




**Станислав БОГДАНКЕВИЧ**
доктор экономических наук

Согласно данным государственной статистики, экономика Беларуси процветает: производство ВВП ежегодно увеличивается на 4–5%, реальные доходы населения возрастают на 9–30%, вклады в банках ежегодно удваиваются, а то и утраиваются, уровень безработицы относительно невысок – где-то 3% численности трудоспособного населения.

Однако серьезные экономисты почему-то бьют тревогу, твердят об ошибочности проводимого экономического курса, о приближении экономики к финансовому краху. Кто прав? Судить вам. В этих целях я озвучу другие официальные показатели, характеризующие нашу экономику.

**При приросте ВВП на 4–5% долги экономики коммерческим банкам ежегодно прирастают на 60–75%.** Такова цена роста. Приемлема ли она? Предприятия разоряются. Размер кредиторской задолженности, 45% которой является просроченной, составил 11,3 трлн. руб., что составляет 44% от годового размера ВВП. **Показатель платежеспособности** (как отношение денежных средств на счетах предприятий к просроченной кредиторской задолженности) **упал до 10%.** Расчеты по зарплате обеспечиваются не за счет выручки от реализации произведенной продукции, а с помощью банковских и правительственных кредитов. **Более половины предприятий, если бы применялся закон о банкротстве, были бы объявлены банкротами.**

**Власть превратила рост ВВП в самоцель.** Под ее давлением предприятия производят себе в убыток, работают на склад, отдают свою продукцию без оплаты. Остатки нереализованной продукции на отдельных предприятиях доходят до 4–6-месячного объема производства, а дебиторская задолженность за отгруженную продукцию превысила 8 трлн. рублей.

**Приведем другие результаты нашей «экзотической» экономики.** 42,5% промышленных предприятий страны полностью лишились собственных оборотных средств. Еще 29% обеспечены ими на минимальном уровне. 4.310 предприятий, или 36,7% их общей численности, оказались убыточными. Рентабельность прибыльных предприятий упала до 9%. **Доля производственных инвестиций в ВВП,** являясь величиной, недостаточной даже для простого воспроизводства, из года в год сокращается:

1999 г. – 11,7%,
2000 г. – 11,4%,
2001 г. – 10,6%,
2002 г. – 10%.

Общий уровень износа активной части основных фондов достиг 80%, а в ряде отраслей превысил 90%.

Трудно питать какие-либо иллюзии в части способности белорусских правителей, для которых главным является вопрос удержания власти, признать экономические реалии и ошибочность проводимой экономической политики, особого экономического курса и особой модели экономического развития. Парадоксальность ситуации в том, что правящий режим проводит экономическую политику, которую не приемлют не только независимые эксперты, не только политическая оппозиция, но и большинство государственных чиновников. Лишь 5% (опрос НИСЭПИ, ноябрь 2002 г.) придерживается противоположного мнения. Однако монопольное право определять и проводить экономическую политику принадлежит президенту, который, без глубокой профессиональной экспертизы и учета мнений гражданского общества, и определяет курс страны.

***

Коллективом белорусских экономистов, ученых, практиков разработана **Программа реформ,** базирующаяся как на собственном, так и на европейском и мировом опыте.

По мнению абсолютного большинства ведущих белорусских экономистов и деловой элиты, обескровленная экономика прежде всего нуждается в либерализации, в ограничении вмешательства в экономические процессы государственных чиновников, в верховенстве закона, а не президента и его вертикали, **в сокращении бремени налогообложения и других поборов.** Непосильные налоги и поборы препятствуют внутренним накоплениям предприятий, жизненно необходимым для технологического и технического обновления, создания эффективных рабочих мест и восстановления конкурентоспособности.

Нашей стагнирующей экономике явно непосильна ноша в 34% налоговых изъятий, заложенных в бюджете на 2003 г. С учетом других поборов эти изъятия составляют около половины ВВП. **Налогообложение следовало бы снизить до уровня менее 25% от ВВП.**



*Белорусская экономика дышит на ладан. Таковы итоги особой белорусской модели экономического развития, суть которой «лишь бы день простоять, да ночь продержаться», а там – хоть трава не расти*

Не менее важными являются вопросы **единства государственной кассы,** а также стабильности и прозрачности бюджетно-налогового законодательства. **Пора кончать с наличием в стране официального бюджета, утверждаемого Национальным собранием в виде закона, и теневым президентским «загашником»** где-то на счете в Беларусбанке, величина которого законодателям и общественности не ведома, из которого президент в форме благодеяния оказывает финансовые поддержки, публично заявляя, что это не бюджетные средства.

**Пора кончать с практикой, согласно с которой парламент лишен права контроля за тем, как закон о бюджете выполняется исполнительной властью во главе с президентом.** Вредит экономике, бизнесу предоставление права местной власти определять любые базы и объекты налогообложения, ставки, льготы и т.п. Режим формирования и расходования бюджетных средств должен быть ужесточен.

Необходимо предоставить право полного контроля за деятельностью исполнительных органов по сбору и расходованию государственных средств, включая расходование средств президентом, представительным органам – парламенту и местным Советам. Должен существовать порядок, в соответствии с которым все средства от реализации любого государственного имущества, включая военное, и другие поступления, зачисляются в единый государственный бюджет, расходуются строго в рамках, определенных представительными органами. Необходимо **законодательно запретить** после принятия бюджета вносить какие-либо изменения в налоговое законодательство или принимать другие решения, ухудшающие правовое положение предпринимателей.

В условиях, когда две трети действующих субъектов хозяйствования в реальности являются убыточными, **страна нуждается в бюджете развития.** К примеру, Япония, взяв в 1950 г. курс на оздоровление, начала его с сокращения чиновного аппарата, государственных расходов, отказа от бюджетных дотаций и административного контроля за ценами. **Суть социальной направленности бюджета Японии состояла в том, что доля инвестиционных расходов в 1951 г. составила 43% от всех бюджетных расходов.**

В бюджете Беларуси на 2003 год явно занижены поступления от акционирования и приватизации. Доходы от реализации производственных активов запланированы немногим более 200 млн. дол. Спрашивается, **куда пойдут средства от продажи акций Белтрансгаза, химических, нефтеперерабатывающих и других предприятий, стоимость которых оценивается в сумме более 1 млрд. дол.? На какие цели направлены средства в сумме более 200 млн. дол., полученные от продажи акций Славнефти?** Почему бы эти источники открыто не заложить в бюджете страны, предусмотрев их направление на конкретные инвестиции, на создание высокоэффективных новых рабочих мест.

Власти, продекларировав курс на создание и внедрение наукоемких технологий, на науку запланировали почти в 1,5 раза меньше средств, чем на милицию. **На нужды службы охраны президента выделено почти столько же средств, сколько на нужды всей Академии наук.**

Размер ассигнований из бюджета, направляемых на дотирование сельского хозяйства, увеличен на 2003 г. более чем в 2,3 раза.

**Из года в год около 90% местных бюджетов искусственно делаются дотационными.** В республиканском бюджете на 2003 г. предусмотрена так называемая помощь бюджетам других уровней в сумме 1,2 трлн. руб. (17,9% от расходов) против 0,5 трлн. руб. (13%) в 2002 году. Обращает на себя внимание также установление льготных нормативов отчислений в бюджеты тех областей, которые отличаются крайне низкой эффективностью хозяйствования, за счет относительно более успешно работающих регионов.

**У власти развился комплекс национальной неполноценности.** И эта власть готова отказаться от денежно-финансового суверенитета, от национальной валюты, от собственного эмиссионного центра и перейти на российский рубль. Не задумываясь, что устойчивость российского рубля базируется исключительно на нынешней благоприятной конъюнктуре цен на энергоносители. Эта конъюнктура весьма неустойчива. Максимум, на что могла бы пойти власть без серьезных потерь в будущем для страны, – это на привязку белорусского рубля к российскому, сохранив возможность отказа от такой привязки при ухудшении экономической ситуации в России.

Необходимо поставить и решить амбициозную задачу снижения уровня инфляции хотя бы до 10% в год. **Главные причины сохранения высокой инфляции в стране лежат на поверхности.** Это – использование денежно-кредитной эмиссии для покрытия бюджетного дефицита и кредитная экспансия в неэффективную экономику. Бюджет должен стать бездефицитным. Банкам должно быть позволено не предоставлять кредиты убыточным предприятиям, предприятиям, отвлекшим собственные оборотные средства в остатки производимой неконкурентной продукции, в дебиторскую задолженность и бесхозяйственность.

**Отсталая кредитная система страны не в состоянии аккумулировать и производительно использовать имеющиеся ресурсы.** Активы всей кредитной системы Беларуси составляют лишь 40% от размера ВВП, что крайне мало. У нас отсутствуют такие институциональные инвесторы, как финансовые компании, инвестиционные и пенсионные фонды, кредитные союзы и кооперативы.

В кредитной системе страны доля банковского сектора превышает 99%, в то время как, например, в Латвии, Эстонии, России, Чехии, Румынии, Польше эта доля колеблется от 70 до 90%, а в США и Швеции – 25%, Италии – 57%.

Белорусская экономика задыхается от всеобъемлющего администрирования.

**Повышение экономической эффективности возможно лишь в условиях высокой степени экономической свободы и конкуренции.**

# Навукоўцы за Беларусь

**Язэп СТЭПАНОВІЧ,**
**доктар біялягічных навук**




Перадусім мы сышліся сёньня дзеля аналізу існай сытуацыі ў грамадзтве з агульных і прафэсійных пазыцый, вызначэньня шляхоў захаваньня й умацаваньня дзяржаўнай незалежнасьці нашай роднай Беларусі. Будзе палітычна незалежная, з'арыентаваная на галоўную каштоўнасьць – нацыянальнае адзінства, беларуская дзяржава – будзе росквіт эканомікі, культуры й нашага ўласнага дабрабыту. Страціць Беларусь свой сувэрэнітэт – апынецца на ўжо вядомых правінцыйных задворках Расеі з астаткавым рэжымам фінансаваньня, занядбаньнем гаспадарчага разьвіцьця, фізычным і духовым апусташэньнем, канчатковай дэнацыяналізацыяй мясцовага насельніцтва. І тады наша з вамі праца, навука ў прыватнасьці, будзе ськіравана не на паляпшэньне й бясьпеку нашага жыцьця, а на абслугоўваньне вялікадзяржаўных інтарэсаў Масквы.

Як вядома, навуковая сфэра – вяршыня жыцьцядзейнасьці чалавецтва. Тут пануе творчая думка, ідзе пастаянны пошук ісьціны й спосабаў разьвязаньня праблемаў. Трэба меркаваць, што й у беларускай навуцы працуе найтворчая й сьведамая частка інтэлігенцыі. Па дадзеных на 2001 г,. у Беларусі 19,1 тыс. навукоўцаў, што складае ўсяго 0,2% насельніцтва краіны. 10 гадоў назад гэта лічба была ўтрая большай. Толькі за першую палову 90-х страчана дзве траціны навуковага патэнцыялу краіны. Навукоўцы сыходзяць у іншыя сфэры дзейнасьці на радзіме або па прафэсійнай лініі зьязджаюць за межы краіны. Толькі ў 2002 г. Беларусь пакінулі больш за 400 навукоўцаў, 5-я частка зь якіх дыпляматаваныя й, як правіла, маладыя. Штогод пакідаюць краіну 15–20 дактароў і 35–50 кандыдатаў навук. Для параўнаньня: абараняецца штогод блізу 100 доктарскіх і 600 кандыдацкіх дысэртацый. Такім чынам, радзіма губляе ў сярэднім дзесятую частку.

Галоўная прычына «адцёку мазгоў» – незапатрабаванасьць і нізкая аплата навуковай працы. На канец мінулага году старэйшы навуковы супрацоўнік з 20-гадовым стажам кандыдат навук атрымліваў 162 тыс. рублёў пры мінімальным спажывецкім бюджэце 145 тысяч. Зарплата навуковых і малодшых навуковых супрацоўнікаў яшчэ ніжэйшыя, а неаступененых – нават значна меншая за пражытковы мінімум. А калі ўлічыць, што шэраг навуковых калектываў гадамі працуюць на палове, а то й менш, стаўкі, то гэта лічба адносная, не рэальная. У першым квартале сёлета фінансаваньне акадэмічнай навукі зьменшана на сотні мільёнаў рублёў. Такім чынам, непазьбежна далейшае скарачэньне навуковых кадраў. Робіцца стаўка на сілу, а не на розум.



> ***Нам нашчадкі не даруюць, калі мы страцім сваю дзяржаву. Беларускай нацыі яна патрэбна як кожнаму з нас паветра.***

Яшчэ адна сур'ёзная акалічнасьць: з-за афіцыйнага стаўленьня да навуковай дзейнасці як «нахлебніцтва» навука рэзка старэе. Сюды неахвотна ідзе таленавітая моладзь. Па шэразе навуковых галін адсутнічае вочная асьпірантура. Дактарамі навук становяцца, як правіла, асобы перадпэнсійнага й пэнсійнага ўзросту.

Навука як творчая сфэра ня церпіць прымусу, жорсткага адміністрацыйнага кіраваньня. Творча думаць, ствараць не прымусіш. І нельга патрабаваць ад навукі імгненнай эканамічнай аддачы, на што робіцца стаўка сучасным кіраўніцтвам НАН. Фундаментальныя дасьледаваньні нярэдка ськіраваны на аддаленую пэрспэктыву. Яны зь ліхвой акупяцца пасьля. Гэта трэба разумець. Так, для вывядзеньня новага гатунку збожжавых ці бульбы патрабуецца добры дзесятак гадоў. І ў імклівай кібэрнэтыцы не адразу зьявіліся кампутары. Для рэалізацыі ідэяў патрэбны ня толькі час, але й пэўная матэрыяльна-тэхнічная база, якая ў бальшыні выпадкаў састарэлая, даўно падлягае абнаўленьню. Нават дзіўна, як у цяперашніх умовах беларускія навукоўцы займаюць не апошнія пазыцыі. Прывядзем некаторыя прыклады.

Так, летась у Беларусі выконваліся 32 дзяржаўныя, 9 галіновых, 6 рэгіянальных навукова-тэхнічных праграм. Паводле афіцыйных зьвестак у ходзе іх рэалізацыі распрацаваны й даведзены да стадыі практычнага прымяненьня блізу 70 новых відаў машын, абсталяваньня й прыбораў, 30 новых відаў матэрыялаў і рэчываў, 20 новых тэхналягічных працэсаў, 20 гатункаў і гібрыдаў сельскагаспадарчых культур. У 2001–2002 гадох па распрацоўках, выкананых у рамках дзяржаўных навукова-тэхнічных праграм, атрыманы 241 патэнт і пададзена 377 заявак на іх атрыманьне. У аграрны сэктар укаранёна 120 навуковых распрацовак, якія далі эканамічны эфэкт больш за 50 млрд. рублёў.

Шэраг навуковых кірункаў ужо сёньня складаюць аснову тэхнічнага патэнцыялу цэлых галін. У якасьці прыкладу можна прывесьці дасьледаваньні па лязарнай фізыцы, стварэньні высокатрывалых матэрыялаў і пакрыцьцяў, сродкаў аховы расьлін, лекавых прэпаратаў, распрацоўкі ў галіне йнфармацыйных і мэмбранных тэхналёгій і інш. У прыватнасьці, створаны й прыняты міжнароднай камісіяй клястарны супэркампутар «Ськіф» зь пікавай прадукцыйнасьцяй 44,8 млрд. апэрацый за сэкунду, што паставіла нашу краіну ў лік перадавых дзяржаў-вытворцаў такога абсталяваньня. Для параўнаньня адзначым, што кошт 1 млрд. апэрацый не перавышае 3 тыс. даляраў ЗША, што ў 3–5 разоў менш за кошты замежных аналягаў.

Распрацаваны й асвоены ў вытворчасьці шматколерны магніталязарны тэрапэўтычны апарат «Крыніца-1». Гэты паліфактарны шматфункцыйны апарат увасобіў у сабе апошнія дасягненьні лязарнай і валаконна-аптычнай тэхнікі, а таксама мэдычнай практыкі. Навізна распрацоўкі пацьвярджаецца 18 заяўкамі на атрыманьне патэнтаў Рэспублікі Беларусь. Апарат прызначаецца для лячэньня шматлікіх захворваньняў: туберкулёзу, бранхіяльнай астмы, гінэкалягічных і нарвовых захворваньняў.

Такім чынам, са сваёй задачай – распрацоўваць і ўкараняць у эканоміку новыя высокія тэхналёгіі, новыя матэрыялы, новыя рацыянальныя мэтады – беларуская навука спраўляецца пасьпяхова. Яна фармуе бясьпеку краіны як у эканамічным, так і ў палітычным плянах.

А.Вайтовіч адзначыў: «Моцны інтэлектуальны патэнцыял – гэта найкаштоўнейшы айчынны скарб, які трэба эфэктыўна й беражліва выкарыстоўваць. Каб забясьпечыць устойлівае разьвіцьцё краіны, мы павінны аб'яднаць інтэлект усёй Беларусі. Я веру ў тое, што ёсьць вялікая сіла, якая здольна аб'яднаць нашу дружалюбную, працавітую й мудрую нацыю, – гэта любоў да роднай зямлі. Сваё надзейнае сёньня й лепшае заўтра мы павінны стварыць самі».

Інакш кажучы, галоўная кансалідоўная й рухальная сіла – нацыянальная ідэя, дзяржаўны патрыятызм. Беларускім навукоўцам не бракуе пачуцьця нацыянальнага гонару й годнасьці. Нацыянальна-дзяржаўны патрыятызм праяўляецца перадусім у стаўленьні да беларускай мовы. Так, паводле апытаньня, праведзенага ў 1998 годзе Акадэмічнай радай ТБМ імя Ф.Скарыны, навукоўцы НАН Беларусі падтрымліваюць беларусізацыю навуковай сфэры. Адказы на пісьмовую анкету грамадзкай арганізацыі далі больш за палову (21) акадэмічных інстытутаў. Прытым 20 зь іх дасланы на беларускай мове. На дзіва, не далі ніякіх адказаў кіраўнікі Інстытутаў літаратуры; мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру; сацыялёгіі; філязофіі й права, – якія закліка\ны быць сьцяганосцамі беларусізацыі акадэміі. Пазыцыя зразумелая: у цяперашніх палітычных умовах дэманстраваць кантакт зь беларускай мовай, якая асацыюецца з апазыцыйнасьцяй да ўлады, і зь нефармальнымі арганізацыямі, мякка кажучы, непажаданы. Тэхнічным і прыродазнаўчым навукоўцам, якія маюць у бальшыні сваёй дадатковае пазабюджэтнае фінансаваньне па праектах, канешне, дэманстраваць свой нацыянальны патрыятызм у гэтым сэньсе прасьцей. Адсюль і ініцыятарамі стварэньня ў 1995 г. Грамадзкага руху ў абарону Канстытуцыі (ГРАК) Рэспублікі Беларусь былі не філёзафы-правазнаўцы, а біёлягі – дактары навук В. Іванчанка, З.Сярова, Р.Ганчарова й іншыя навукоўцы.

Хоць сам А.Лукашэнка на сустрэчы з навукоўцамі з выпадку Дня навукі сказаў: «Навука ня можа быць у баку ад грамадзка-палітычных працэсаў, якія адбываюцца ў дзяржаве. Больш за тое, трэба мець навукова абгрунтаваныя мэтады кіраваньня гэтымі працэсамі. Гэта важнейшая задача сацыяльна-гуманітарных навук» Але на практыцы паспрабуйма выказаць крытычныя заўвагі ўладзе... Чаго каштуюць такія падказкі, вядома з прафэсійнага лёсу эканаміста В.Тарасава, якому ВАК не зацьвердзіла доктарскую дысэртацыю, доктара сацыялёгіі В.Оргіша, якога ў росквіце прафэсійнасьці скарацілі па штаце. Пра такіх навукоўцаў, якія думаюць цьвяроза й не маўчаць, прэзідэнт кажа: «Сидит, питается за счет государства, втихую работает на оппозицию, отловили, по ушам надавали – плачет. Чего ты плачешь? Ты же знал, что делал. Мы же предупредили всех» («Веды», № 3, 2003). Тут да месца ўзгадаць акадэміка Р.Гарэцкага, нядаўна гвалтоўна й жорстка зьбітага ля свайго дому. Рука наймітаў паднялася на сусьветна вядомага геоляга, акадэміка Нацыянальнай і Расейскай акадэмій. За што? За шчырэйшы, непадробны патрыятызм, за любоў да Бацькаўшчыны на практыцы.

З аналізу стану сучаснай беларускай навукі вынікае, што яна з пагляду нашага кіраўніцтва ня толькі непатрэбная, але й шкодная, паколькі заглядае ва ўсе шчыліны дзяржаўнага мэханізму. Яна патрэбна як змазачны матэрыял гэтага іржавага мэханізму, патрэбна ў якасьці служкі рэжыму, ськіраванаму на чужыя, расейскія інтарэсы. Гэта супярэчыць вольнаму характару навукі. Навукоўцы служаць і будуць служыць толькі навуцы й сваёй Бацькаўшчыне.

Для беларускага грамадзтва зараз архіактуальна – захаваць сувэрэнітэт краіны. Мая прапанова: на базе Аргкамітэту Ўсебеларускага сходу йнтэлігенцыі з далучэньнем прадстаўнікоў партый і грамадзкіх арганізацый незалежніцкай арыентацыі стварыць пастаянна дзейны Камітэт абароны сувэрэнітэту (КАС) Беларусі. Патрэбны агульнанацыянальны дзейны орган, які б вёў маніторынг грамадзка-палітычнай сытуацыі й дзяржаўнага ладу Рэспублікі Беларусь, трымаў сталы кантакт з уладамі краіны, каардынаваў грамадзкую незалежніцкую дзейнасьць.

## Рэфармацыя: 450-я ўгодкі

# Час узнёсласці

### XVI стагодзьдзе ўвайшло ў гісторыю Беларусі як Залаты Век нашае краіны

Гэта быў час, калі Вялікае гнязтва Літоўскае перажывала незвычайны ўздым у культурным, эканамічным і палітычным жыцьці. Друкаваліся кнігі на беларускай мове, пісаліся паэмы, багаслоўскія трактаты, дзёньнікі, бэлетрыстыка, былі выдадзеныя лепшыя ў Эўропе зборнікі законаў, імкліва расьлі гарады, разьвівалася сельская гаспадарка. І ўсё гэта ва ўмовах, якія ніяк не назавеш надзвычай спрыяльнымі. Больш таго, у жыцьці ВКЛ як дзяржавы XVI ст. было нашмат горшае за папярэдняе. Калі ў XV ст. пасьля перамогі пад Грунвальдам Вялікае Княства практычна ня мела зьнешняе пагрозы, дык пачынаючы з княжаньня Аляксандра краіна вяла несупынныя войны з Масквою, якія былі вельмі няўдалымі і мелі наступствам патрэбу заключэньня больш сьціслай уніі з Польшчай дзеля захаваньня Вялікага Княства як дзяржаўнага арганізму. Тым ня менш, менавіта XVI стагодзьдзе дало Беларусі агульнаэўрапейскую славу, якая не згубіла свайго бляску аж да сёньня. Дастаткова назваць імёны Францішка Скарыны, Мікалая Радзівіла Чорнага, Сымона Буднага або Льва Сапегі, каб уявіць маштаб тае эпохі.

#### Падстава ўзлёту

Адной з цэнтральных падзеяў гэтага незвычайнага стагодзьдзя была Рэфармацыя, якая набыла ў Беларусі такі размах, што можна казаць пра Вялікае Княства XVI ст. як пра краіну, дзе рэфармаваная царква займала калі не пануючую, дык прынамсі вызначальную пазыцыю ў духовым жыцьці грамадзтва. Практычна ўсе выбітныя постаці Беларусі XVI ст. або непасрэдна зьвяўляліся вернікамі пратэстанцкіх цэркваў, або знаходзіліся пад моцным уплывам рэфармацыйнай думкі. Рэфармацыя – рух аднаўленьня царквы, вяртаньня да Біблії як першаасновы хрысьціянства, спрычыніліся да таго, што краіны Паўночнае Эўропы, такія, як Нямеччына, Англія, Швэцыя, высунуліся на першы плян у культурным, палітычным і эканамічным разьвіцьці, пакінуўшы далёка ззаду бясспрэчных лідараў эпохі Сярэднявечча – Італію, Гішпанію, Францыю. Такія самыя працэсы адбываліся і ў Беларусі.

Ідэі Рэфармацыі не былі цалкам новымі для жыхароў Вялікага Княства. Амаль стогадовая дзейнасьць гусітаў добра падрыхтавала глебу для наступных падзеяў. Яшчэ ў 1413 г. у Беларусі прапаведваў паплечнік Яна Гуса Геранім Праскі. Пасьля беларускія ваяры бралі чынны ўдзел у гусіцкіх войнах. Ня трэба таксама забываць, што большасьць беларускай моладзі, якая вучылася ва унівэрсытэтах у XV–пачатку XVI стст., набывала веды ў Празе і Кракаве – буйных інтэлектуальных асяродках гусітызму. Пропаведзь Яна Гуса была вельмі падобнай да пропаведзі Марціна Лютара, таму літаральна праз некалькі год пасьля славутага выступу ў Вітэнбэргу ў Вільні на поўны голас гучалі заклікі да рэформы царквы. Францішка Скарыну, які пачаў выдаваць Біблію па-беларуску ў 1517 г., абвінавачвалі, што ягоны пераклад Сьвятога Пісьма прасякнуты лютаранскім духам.

#### Асэнсаваны выбар

У 1553 г. князь Мікалай Радзівіл Чорны, канцлер Вялікага Княства і адзін з найбольш уплывовых беларускіх магнатаў, публічна абвесьціў аб тым, што ён вызнае эвангельскую веру і заснаваў пратэстанцкія цэрквы ў Берасьці, Вільні і Нясьвіжы. У тым жа годзе ён выдаў у Берасьці эвангельскі катэхізіс. Не прайшло некалькіх год, як прыхільнікамі Рэфармацыі сталі Вішнявецкія, Валовічы, Глябовічы, Дарагастайскія, Сапегі, Пацы, Зяновічы, Агінскія і іншыя. У хуткім часе рэфармацкія зборы зьявіліся ў Клецку, Койданаве, Менску, Полацку, Віцебску, Воршы, Шклове, іншых гарадах і мястэчках. На працягу другой паловы XVI ст. у Беларусі было заснавана каля 300 эвангельскіх цэркваў. Мітрапаліт Іпацi Пацей пісаў, што ў Навагрудзкім павеце «наўрад ці хоць адзін шляхецкі дом з сотні» застаўся неахоплены вучэньнем Рэфармацыі. Віленскі біскуп Бэнэдыкт Война скардзіўся ў Рым, што ў Княстве раней было 600 касьцёлаў, а засталося толькі 300. Аж да пачатку XVII ст. у сэнаце Вялікага Княства пераважную большасьць складалі пратэстанты.

У гарадах мяшчане ня менш масава прымалі эвангельскае вучэньне. Мандат вялікага князя Жыгімонта Аўгуста на заснаваньне кальвінскай царквы у Віцебску пачынаецца такімі словамі: «Прыслали до нас бояре, шляхта, бурмистры, райцы и мешчане тамошние витэбскіе, бьючы чолом, абыхмо у тамошнем месте Витэбском дозволили им ку науцэ детем и для хожэния их ку слуханю слова Божего дом збудовати и казнодею ховати». Улічваючы, што ў Вялікім Княстве шляхта складала каля 10%, а жыхары гарадоў і мястэчак – больш 15%, можна упэўнена казаць пра вялікі ўплыў Рэфармацыі на жыцьцё краіны.

#### Справа Скарыны



Знакавай падзеяй у беларускай гісторыі сталася выданьне Францішкам Скарынаю Біблії на беларускай мове. Гэта паклала пачатак ня толькі беларускаму друкарству, але і сталася адной з прычынаў хуткага разьвіцьця Рэфармацыі ў нашай краіне. Хоць сам Скарына нічога не пісаў пра сваё веравызнаньне, уся яго дзейнасьць сьведчыць аб ім у першую чаргу як аб рэфарматары. Ужо той факт, што ён друкаваў Біблію для людзей паспалітых, што імкнуўся наблізіць Слова Божае да чытача, зрабіць яго распаўсюджаным і зразумелым, паказваюць беларускага першадрукара як пачынальніка Рэфармацыі ў Беларусі. Сучасьнікі Скарыны на дзіва згодна ацэньваюць яго дзейнасьць. Па словах змагара за чысьціню праваслаўя А.Курбскага, Біблія Скарыны «растленна», пярэчыць усім сьвятым уставам і ў-ва ўсім згодная зь Бібліяй Лютара. Каталікі таксама абвінавачвалі Скарыну ў адыходзе ад канонаў каталіцкае царквы і прыналежнасьці да Рэфармацыі. Уніяцкі мітрапаліт А.Сялява называў Скарыну «еретыком гусітам», а выданую ім Біблію разглядаў як пачатак Рэфармацыі ў Вялікім Княстве. Наадварот, дзеячы Рэфармацыі бачылі ў Скарыне свайго аднадумца.

У далейшым сувязь кнігадрукаваньня і Рэфармацыі ня менш выразная. Палова друкарняў, якія дзейнічалі ў Вялікім Княстве, былі цесна зьвязаныя з рэфармацыйным рухам. Такія выдаўцы? як Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Цыпрыян Базылік, Даніэль Ленчыцкі, Бэрнард Ваяводка, Мацьвей Кавячынскі і г.д., вядомыя ня толькі як друкары, але, перш за ўсё, як актыўныя дзеячы Рэфармацыі. Значную частку кнігадрукаў XVI ст. складаюць Біблії, катэхізісы, багаслоўскія трактаты, палемічныя творы. Цікавасьць да чытаньня Біблії, абуджаная гэтым прагна пазнаць ісьціну і увогуле цікавасьць да разнастайных ведаў спрычыніліся да таго, што кнігі друкаваліся немалымі накладамі, для іх знаходзіліся і мэцэнаты, і спажыўцы. Нельга абмінуць увагаю Берасьцейскую друкарню, якую фундаваў Мікалай Радзівіл Чорны, або фундацыі Астафея Валовіча на кірылічныя творы Сымона Буднага. Падтрымка з боку Яна Кішкі ці Яна Глябовіча у многім дапамагла друкарскай дзейнасьці Сымона Буднага ў Лоску або друкаваньню разнастайных твораў Андрэя Воляна.

#### Сьвята адукацыі

Рэфармацыя ў Беларусі прывяла да істотнай пераменны ў галіне адукацыі. Яна вывела асьвету за межы манастырскіх муроў і дала магчымасьць велізарнай колькасьці беларусаў атрымаць даволі грунтоўныя веды ў сябе на радзіме. Шырокае распаўсюджваньне Рэфармацыі суправаджалася ня толькі будаўніцтвам збораў, а, у першую чаргу, адкрыцьцём пачатковых школаў пры новаўтвораных цэрквах. Адзін з галоўных прынцыпаў Рэфармацыі – патрабаваньне да кожнага хрысьціяніна чытаць Біблію, бо толькі Біблія дае паўнавартасныя веды пра веру і Бога і толькі яна зьяўляецца асноваю хрысьціянства. Каб людзі маглі чытаць Біблію, яны павінны ўмець чытаць. Таму адукацыя разглядалася беларускімі рэфарматарамі як адна з асноўных сваіх задач. Пратэстанцкія школы, народжаныя Рэфармацыяй, нямала дапамаглі хуткім посьпехам рэфармацыйнага руху на беларускіх землях. Віленская школа, заснаваная Мікалаем Радзівілам Чорным разам з царквою, у канцы XVI ст. прэтэндавала на статус акадэміі, і толькі супрацьдзеяньне каталіцкай герархіі і караля Жыгімонта Вазы не дазволілі ажыцьцявіць гэты праект.

Распаўсюджваньне пісьменнасьці сярод шырокіх колаў беларускага грамадзтва прынесла літаральна выбух у пісьменьніцкай дзейнасьці. Самыя розныя людзі пачалі пісаць дзёньнікі, запіскі з падарожжаў, мемуары. У адрозьненьне ад ранейшых летапісцаў, аўтараў цікавілі ня толькі вялікія гістарычныя падзеі, але і лёсы канкрэтных людзей.

Таксама для XVI ст. характэрна фармаваньне вялікіх бібліятэчных збораў. Рэй у гэтым зноў вялі Радзівілы, а таксама іншыя магнаты-пратэстанты. Першы нотны зборнік, выдадзены ў Беларусі, першая мастацкая калекцыя, рознабаковая падтрымка магнатамі паэтаў і пісьменьнікаў, так званая рэнэсансная архітэктура – гэта таксама ўнёсак Рэфармацыі ў культурны ўздым нашай краіны ў XVI ст.

#### Эканамічны зрух

Ня толькі разьвіцьцё культуры зрабіла стагодзьдзе Рэфармацыі Залатым Векам. Ня меншых посьпехаў дасягнула ў гэты пэрыяд эканоміка. Сьведчаньнем гэтага зьяўляецца імклівы рост насельніцтва, калі на працягу стагодзьдзя колькасьць жыхароў краіны вырасла амаль удвая. У выніку правядзеньня валочнай памеры, правядзеньнем якой кіравалі Мікалай Радзівіл Чорны ды Астафей Валовіч, краіна атрымала сельскагаспадарчы пад'ём, які дазволіў экспартаваць збожжа ў Заходнюю Эўропу. Калі дзяржаўны скарб перад рэформай атрымліваў падатку з сельскай гаспадаркі менш за 20 тыс. коп грошаў, дык у 1588 г. ён атрымаў 82 тыс. коп грошаў. Прынцыпы, закладзеныя валочнай памерай, дзейнічалі на Беларусі аж да пачатку XX ст., а форма забудовы да сёньняшняга дня адрозьнівае Беларусь ад суседняй Расеі.

Разьвіцьцё сельскай гаспадаркі падштурхнула разьвіцьцё гарадоў. На працягу XVI ст. іх колькасьць у Беларусі вырасла з 48 да 380. Ліквідацыя сялянскай абшчыны дазволіла частцы сялян замест працы на зямлі займацца рамяством. Гэтыя памкненьні падтрымлівалі магнаты і заможная шляхта, засноўваючы на сваіх землях гарадзкія паселішчы і надаючы ім права самакіраваньня. Нярэдка ў новаўтвораныя гарады запрашаліся рамесьнікі-пратэстанты, вядомыя сваёй якаснай працаю. Пратэстанцкая этыка працы, якая была ля вытокаў рынкавай эканомікі ў Заходняй Эўропе, гэтаксама дзейнічала і ў Беларусі, спрыяючы разьвіцьцю вытворчасьці. Дзеячы Рэфармацыі ставілі сабе за мэту пашырэньне кола людзей, якія займаюцца нейкім рамяством. Сымон Будны ў «Катэхізісе» зьвяртаў увагу бацькоў, што «повінны родители научати сынов своих мастерству або ремества якого побожного, абы от него слушное выжывене на потом мели». Ён ставіў майстра ў адзін шэраг з настаўнікам, пастарам ці прадстаўніком улады.

Працяг на стар. 8

## Рэфармацыя: 450-я ўгодкі

# Час узнёсласці

Заканчэнне. Пачатак на стар. 7

Пытаньні эканомікі цікавілі як палітыкаў, так і паэтаў. Менскі ваявода Ян Абрамовіч, адзін з лідараў рэфармацыйнага руху ў Княстве, напісаў кнігу «Погляды ліцьвіна на танную куплю і дарагі продаж збожжа», у якой тлумачыў неабходнасьць стварэньня ў краіне свабоднага рынку. Ягоны сучасьнік, філёзаф і паэт Язэп Дамanеўскі ў сваіх творах паказваў працу, актыўную жыцьцёвую пазыцыю як крыніцу шчасьця чалавека, а гультайства і бязьдзейнасьць як прычыну нешчасьлівага жыцьця.

### Дзяржаўнасць

Адной з самых моцных ідэяў, якая вынікала з мэнталітэту Рэфармацыі, была ідэя дзяржаўнага сувэрэнітэту. Біблія давала шматлікія прыклады патрыятызму і сьведчыла сваім чытачам, што воляй Бога зьяўляецца, каб кожны народ самастойна арганізоўваў сваё жыцьцё. Ня дзіўна, што менавіта магнаты-пратэстанты – Радзівіл Чорны, Радзівіл Руды, Астафей Валовіч, Леў Сапега і іншыя – былі ў першых шэрагах змагароў за незалежнасьць Вялікага Княства. Менавіта іх пазыцыя не дазволіла на сойме ў Любліне ў 1569 г. пазбавіць краіну дзяржаўнасьці, менавіта яны праводзілі разнастайныя рэформы, якія ўмацоўвалі сувэрэнітэт краіны.

У адрозьненьні ад многіх эўрапейскіх дзяржаваў, дзе працэс цэнтралізацыі ішоў праз узмацненьне ўлады манарха, у Вялікім Княстве XVI ст. цэнтралізацыя праяўлялася праз разьвіцьцё агульнадзяржаўнага заканадаўства. Прававыя акты таго часу напоўненыя спасылкамі на аўтарытэт Сьвятога Пісьма і нормы хрысьціянскай маралі. Для беларускіх заканатворцаў, большасьць зь якіх былі эвангельскімі хрысьціянамі, першасная крыніца законаў заключалася ў Богу і Ягоным сьвятым законе. Людзі, ствараючы законы, адлюстроўваюць у іх не сваю волю, але волю Бога.

Адным з базавых прынцыпаў, на якіх асноўвалася беларускае заканадаўства XVI ст., была роўнасьць усіх перад законам, якое вынікала з роўнасьці ўсіх перад Божым законам. Андрэй Волян, адзін зь вядучых мысьляроў беларускай Рэфармацыі, пісаў, што толькі там, дзе ў дзяржаве існуе роўнасьць усіх перад законам, людзей сапраўды магчыма назваць свабоднымі. Для беларускіх рэфарматараў свабода – гэта такі стан чалавека, калі яго паводзіны ў грамадзтве вызначаюцца не ягонымі жаданьнямі (што хачу, тое і раблю), але вызначана рамкамі закону. Свабода асобы, каб не прывесьці да анархіі, павінна стрымлівацца нормамі хрысьціянскай адказнасьці.

### Статуты

Выразам гэтых памкненьняў сталася выданьне Статутаў ВКЛ, а асабліва Статуту 1588 г. Гэты зборнік законаў зьяўляецца шэдэўрам беларускай юрыдычнай думкі і лічыцца найлепшым і найдасканальшым юрыдычным кодэксам у тагачаснай Эўропе. У Статут увайшлі нормы канстытуцыйнага права, чаго на той час не было ў заканадаўстве іншых эўрапейскіх дзяржаваў, а таксама адміністрацыйнага, ваеннага, судова-працэсуальнага, шлюбна-сямейнага, зямельнага, крымінальнага права.

Статут замацоўваў асабістую свабоду кожнага чалавека, даваў права вольнага выезду за мяжу, уводзіў прэзумпцыю невінаватасьці і свабоду веравызнаньня. Паводле Статуту, ніхто з урадоўцаў ня мог быць пазбаўлены манархам пасады, інакш як паводле пастановы суду. Былі замацаваныя палітычныя правы шляхты: права ўдзелу ў заканатворчай дзейнасьці, абіраць і быць абранымі ў сойм. Таксама Статут вызначаў беларускую мову як дзяржаўную, дый сам быў напісаны пабеларуску, каб кожны грамадзянін мог ведаць свае правы: «Мы маем законы, напісаныя не на нейкай чужой мове, але на сваёй уласнай, і ў любы час можам даведацца тое, што неабходна для абароны ад усякае крыўды».

Статут вызначаў, што закон павінен, па-першае, абараняць грамадзян дзяржавы ад злоўжываньняў з боку манарха, г.зн. прадухіляць праявы тыраніі, а па-другое, забясьпечыць дзяржаве ўнутраны парадак і мір. На першай старонцы Статуту былі напісаныя словы з Бібліі, зварот да судзьдзяў: «Глядзіце, што вы чыніце. Вы зьдзяйсьняеце не суд чалавечы, але суд Божы ... Няхай будзе на вас страх Госпадаў» (2 Крон 19,6-7).

### Свабода сумлення

Стагодзьдзе Рэфармацыі праславілася свабодай веравызнаньня, якая панавала ў нашай краіне. Традыцыі верацярпімасьці, характэрныя для Вялікага Княства і ў ранейшыя стагодзьдзі, дзякуючы дзейнасьці рэфарматараў набылі сілу закону. Гарадзельскі прывілей 1413 г. забараняў некаталікам займаць дзяржаўныя пасады ў Вялікім Княстве. І хоць гэты закон не заўсёды выконваўся, заканадаўчая дыскрымінацыя існавала да сярэдзіны XVI ст. У 1563 г. магнаты і шляхта на чале зь Мікалаем Радзівілам Чорным дамагліся прыняцьця пастановы, што «на ўсялякія пасады і ва ўрад павінны абірацца ня толькі падданыя рымскае царквы, але ў той самай ступені ўсе мужчыны шляхецкага стану, людзі веры хрысьціянскае, кожны паводле сваіх заслугаў». У хуткім часе пасьля гэтага ў сэнаце Вялікага Княства большасьць месцаў стала належаць пратэстантам.

Наша краіна набыла ў Эўропе славу «прыбежышча герэтыкаў», краіны, у якой кожны мог свабодна вызнаваць сваю веру. У Вялікае Княства пачалі перасяляцца італьянцы, французы, чэхі, шатляндцы, у якіх на радзіме за нязгоду з пануючай рэлігіяй можна было трапіць у турму або на стос.

У студзені 1573 г. беларуская і польская шляхта прынялі так званы акт Варшаўскае канфэдэрацыі: гэта быў першы ў сьвеце прававы акт, які дэкляраваў прынцыпы роўнасьці прававоў паміж людзьмі розных веравызнаньняў. Для Эўропы, ахопленай полымем рэлігійных войнаў, Варшаўская канфэдэрацыя стала прыкладам, як вырашаць пытаньні свабоды сумленьня. У той самы час у Парыжы быў прыняты закон, які забараняў па ўсёй Францыі сабраньні і служэньні гугенотаў, пагражаючы за ягонае або патаемнае вызнаваньне «герэзіі» сьмерцю. Да канца XVI ст. францускія пратэстанты ставілі нашую краіну ў прыклад сваім суайчыньнікам.

### Кошт памылкі

Ідэі Рэфармацыі, якімі была прасякнута значная частка беларусаў XVI ст., сталі асновай таго, што гэтая эпоха стала часам сапраўднага росквіту нашай краіны. Ідэі, якімі жыве народ, вызначаюць шляхі разьвіцьця грамадзтва. Гэта выразна пацьвярджаюць падзеі, што адбываліся ў Беларусі ў наступным стагодзьдзі. Прыняцьцё элітай Вялікага Княства ідэалёгіі Контррэфармацыі прывяло да татальнага заняпаду ў тых сфэрах, якія ў XVI ст. былі славай нашага народу. Гэта не было абумоўлена ходам гістарычных падзеяў, гэта быў выбар эліт. Нашчадкі тых, хто ў XVI ст. прынялі Рэфармацыю, у XVII ст. адмовіліся ад гэтых ідэяў.

Вынік не прымусіў доўга чакаць – Залаты Век скончыўся і пачаўся доўгі шэрыяд няславы, паразаў і катастрофаў. Аднак сьведчаньне XVI стагодзьдзя дае надзею, што калі наш народ павернецца да тых каштоўнасьцяў, якія прынесла з сабой Рэфармацыя, калі беларускія эліты зробяць выбар, падобны да выбару беларускіх эліт часоў Скарыны і Радзівіла Чорнага, наш народ паднімецца з каленаў і краіна адродзіцца.

**Станіслаў АКІНЬЧЫЦ**

**Пасля ад'езду Францішка Скарыны ў Прагу, друкарскі станок у ВКЛ не працаваў тры дзесяцігоддзі. Толькі ў 1558 годзе ў Брэсце была ўтворана друкарня, дзе неўзабаве выходзіць на беларускай мове кніга Сымона Буднага «Катэхізіс, гэта значыць навука старажытная хрысьціянская ад сьвятога пісьма...» Тутака ж выдаў Сымон Будны і сваё «Апраўданне грэшнага чалавека перад богам». Наступнымі сталі друкарні ў Нясвіжы, Заслаўі і Лоску, дзе выйшлі пераклад Новага запавета з каментарамі, а таксама палемічны твор «Аб сьвецкай уладзе». Буднаму належыць болей за дваццаць надрукаваных твораў, але наклады некаторых з іх цалкам патрапілі ў кніжныя кастры контррэфарматараў як каталіцкіх, гэтак і праваслаўных. Агонь знішчыў і бальшыню накладу Евангелля, якое пераклаў на родную мову і выдаў на ўласныя сродкі Васіль Цяпінскі. Ягоны лёс наогул стаў сімвалічным для лёсу беларускай культуры. Родныя пляменнікі не даравалі таленавітаму дзядзьку выдаткаваных на выданне кнігі грошай і засеклі яго шаблямі ў лесе ў 1602 годзе**



## Рэфармацыя: 450-я ўгодкі

# Пазнакі шчырай веры


Клецкі збор. Тут прапаведваў Сымон Будны

Маштабны пераход у сярэдзіне XVI ст. беларускіх магнатаў і шляхты ў пратэстанцкія цэрквы забяспечыў фундацыі для пабудовы мураваных святыняў. Некаторыя з іх захаваліся па наш час і могуць шмат паведаць таму, хто здольны пачуць іх таямнічыя споведзі. Бо помнікі старажытнасці нясуць на сабе не толькі адбітак мастацкіх густаў свайго часу, талента архітэктара, майстэрства будаўнікоў. На іх ляжыць адбітак тых пачуццяў, што перажывалі тут пакаленні людзей, - радасці і гора, шчаслівых спадзеяў, здзейсненай малітвы. Тут, у святых мурах, як прыкладам, кальвінскі збор, які аздабляе у Заслаўе, старажытны кальвінскі збор ў Смаргоні, гучалі галасы выбітных людзей той славутай эпохі.

Некалькі стагоддзяў прастаяў кальвінскі збор у Клецку, памятны тым, што тут служыў асветнік Сымон Будны. Будынак зруйнавалі ўжо ў пасляваенны час, з-за чаго Клецк страціў адно з найлепшых сваіх упрыгожанняў. Тады ж, у 1960-х гадах, ахвярай бязглуздасці стаў і Койданаўскі збор - выдатны помнік пратэстанцкай беларускай архітэктуры.

Шмат з таго, што было плёнам працы беларускіх пратэстантаў, зведала непаважнае стаўленне іхных сыноў ды ўнукаў. Асабліва ўславіў сябе гэтым Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка. Усё, што было створана і распачата яго таленавітым бацькам Мікалаем Радзівілам Чорным, чалавекам дзяржаўнага розуму і патрыятычных пачуццяў, Сіротка пусціў з дымам. Падпарадкаваны езуітам, добры арганізатар але банальны ідэолаг, ён у сваіх маёнтках пазакрываў адкрытыя бацькам пратэстанцкія зборы, а лепшыя будынкі перадаў контррэфарматарам.

У сярэдзіне XVII стагоддзя, гэта значыць амаль праз стагоддзе з моманту запачкавання першых суполак, у сувязі з рэпрэсіямі з боку ўлады шмат пратэстантаў мусілі пакінуць радзіму. Старыя будынкі трымаюць памяць пра іхныя малітвы развітання. іхныя словы вернасці абранай веры.

Гэткія ж пакуты прынялі на сябе пратэстанты і ў сталінскія часы, калі іх саджалі ў канцлагеры, калечылі лёсы, забіралі маёмасць за іхную веру. Толькі ў 1951 годзе былі гвалтам вывезены ў Сібір 2100 пратэстанцкіх сямей з Брэстчыны. Нічога не можа быць горш, чым караць людзей за іхнае ўяўленне пра Бога, і малітву да яго.


Смаргонскі кальвінскі збор XVI ст.


Сучасная пратэстанцкая царква ў Лепелі


Першапачатковы кальвінскі збор у в. Дзераўная


Сучасная рэфармацкая царква ў Слуцку


Былы Мінскі пратэстанцкі храм, ператвораны бальшавікамі ў кінотэатр


Мінская пратэстанцкая царква, збудаваная ў 1990-я гады

## 85-я ўгодкі БНР

# Дзень Светлага Прыйсця

## БНР – у творчасці пісьменнікаў замежжа

На замежжы беларускімі пісьменнікамі-эмігрантамі напісана і выдадзена шмат выдатных кніг, калі не сказаць больш – імі была створана сапраўды нацыянальная літаратура.

Асноўнымі тэмамі ў творчасці Н.Арсеневай, Ант.Адамовіча, В.Адважнага, К.Акулы, Ю.Віцьбіча, М.Вольнага, У.Глыбіннага, У.Дудзіцкага, А.Змагара, Я.Золака, А.Жмені, Х.Ільляшэвіча, М.Кавыля, А.Калубовіча, А.Кавалеўскага, Р.Крушыны, Л.Крывічаніна, Я.Пяроўскага, А.Салаўя, М.Сяднёва, У.Случанскага, А.Саковіч (Іны Рытар), П.Сыча, С.Хмары, М.Целеша, Я.Юхнаўца, С.Ясеня і многіх іншых, былі, асветленыя беларускай нацыянальнай ідэяй, тэмы Бацькаўшчыны, падзеі нашай гісторыі і найперш падзеі 25 Сакавіка – абвяшчэння БНР і Слуцкага Збройнага Чыну. Гэтыя падзеі паваённай беларускай эміграцыяй кожны год адзначаліся як вялікія святы ў кожнай краіне, дзе жылі беларусы.

Асабліва аднаўленне беларускай гістарычнай спадчыны адбывалася ў ЗША, куды эмігрыравала большая частка беларусаў з лагераў перамешчаных асобаў у Германіі. Як пісаў Вітаўт Кіпель у кнізе «Беларусы ў ЗША», «першым крокам у палітычнай дзейнасці гэтае новае хвалі эміграцыі былі арганізаваныя адзначэнні 25 Сакавіка. Гэты дзень прыраўноўваўся ў значнасці да Дня Незалежнасці Злучаных Штатаў (4 ліпеня).

Святкаванні адбываліся ва ўсіх беларускіх асяродках, на іх запрашаліся прадстаўнікі мясцовых уладаў. Губернатары і мэры абвяшчалі дзень 25 Сакавіка Беларускім Днём таго або іншага штату, гораду, а кангрэсмены й сенатары адзначалі гэты дзень у амерыканскім Кангрэсе, праца якога 14 Сакавіка пачыналася малітваю беларускага святара:

«... Усемагутны Божа й Ойча ўсіх народаў, Мы молім Цябе, пamaжы нам, каб Беларускі Народ і ўсе іншыя паняволеныя народы здабылі Тваю багаслаўленую свабоду і гэтым занялі належны ім пасад сярод вольных народаў свету пад Тваім агульным кіравецтвам, пад Тваёю апекаю, у Тваёй любові і справядлівасці...»

Прэзідэнты ЗША таксама вітаюць амерыканскіх беларусаў з Днём Незалежнасці ды высылаюць беларускай грамадзе свае віншаванні. Дзень 25 Сакавіка дзякуючы друку ды дзейнасці амерыканскіх беларусаў увайшоў у шмат якія амерыканскія календары, у падручнікі, а ў мясцінах, дзе жыве найбольш беларусаў, пра гэты дзень гаворыцца ў школах (Нью-Ёрк, Вашынгтон, Чыкага, Лос-Анджэлес, Кліўленд, Саўт-Рывер, Нью-Брансвік).

Бясспрэчна, 25 Сакавіка становіцца і часткаю палітычнае гісторыі амерыканскай нацыі, пра што найлепей сведчыць дакументацыя Дня Незалежнасці Беларусі ў друкаваным органе амерыканскага Кангрэсу – «Кангрэсовых Запісах», якія выходзяць з 1873 г. Выдаваліся і Зборнікі прамоваў у Кангрэсе, прысвечаных Беларусі...».

Пісаў у сваёй кнізе «Крокі гісторыі» пра Акт 25 Сакавіка і адраджэнне нацыянальнай беларускай культуры вядомы дзеяч беларускай эміграцыі і пісьменнік А.Калубовіч, які жыў у ЗША. З асаблівай цікавасцю чытаюцца апісанні святкаванняў 25 Сакавіка ў кнізе Янкі Запрудніка «Дванаццатка» (2002) і ў ягоным гістарычным даследаванні «Беларусь на гістарычных скрыжаваннях». «Дванаццатка» – кніга пра беларускіх студэнтаў, якія ў першыя пасляваенныя гады вучыліся ў Бельгіі ў Лювенскім універсітэце і, стварыўшы Беларускі студэнцкі ансамбль, выступалі ў розных гарадах Еўропы з нагоды беларускіх нацыянальных святаў. Такія канцэрты Беларускага ансамбля адбываліся ў Лондане з нагоды 25 Сакавіка, і ў Фінчлей, там, дзе знаходзіцца Скарынінская бібліятэка і беларуская царква, а потым у цэнтры Лондана, у Вестмінстэрскім кафедральным саборы – агромністай старажытнай залі, упрыгожанай на час канцэртаў англійскім і беларускім сцягамі. Канцэрт, дзе гучалі беларускія народныя песні ў выкананні талентавітага беларускага спевака Пятра Конюха, якога англійская прэса параўноўвала з Шаляпіным, і студэнцкага хору, у беларускіх нацыянальных строях, меў незвычайны поспех.

Пра агромністую значнасць для беларусаў Акту 25 Сакавіка і штогадовае святкаванне гэтай знамянальнай падзеі ў беларускай нацыянальнай гісторыі пісалі Раіса Жук-Грышкевіч («Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча»), Язэп Найдзюк і І.Касяк у кнізе «Беларусь учора і сёння», а таксама беларускі пісьменнік і гісторык Юры Весялкоўскі, які жыве ў Лондане, у даследаванні «Беларусь у Першай Сусветнай вайне». У сваіх успамінах «Эпізоды» Яўхім Кіпель, вядомы вучоны, педагог, які зведаў сталінскі ГУЛАГ, апынуўшыся ў эміграцыі ў ЗША, змог падрабязна і праўдзіва расказаць пра многіх выдатных дзеячаў беларускай культуры, літаратуры і гістарычныя падзеі Беларусі – І Усебеларускі Кангрэс, абвяшчэнне БНР, а пазней і БССР. З не меншай цікавасцю чытаюцца і ўспаміны Кастуся Мерляка пра дзейнасць беларускай эміграцыі ў ЗША і пра дзейнасць Рады БНР у замежжы.

Але, безумоўна, найбольш кранаюць мастацкія творы, прысвечаныя БНР. Цэлыя цыклы вершаў прысвяціла падзеям Слуцкага паўстання і БНР Наталля Арсеннева – «Сыны і маці», «Лістапад», «Мы йшлі», «Усіх памятаем мы», «25 Сакавік», «Дай, добры Кон», «Ён граць ня сціхне».

Выдатныя вершы прысвяцілі Дню 25 Сакавіка У.Дудзіцкі, М.Кавыль, Я.Золак, А.Салавей, М.Сяднёў ды наогул усе пісьменніка замежжа. Дзень 25 Сакавіка яны называлі Днем Светлага Прыйсця.

Веру ў волю і незалежнасць Беларусі выказвалі ўсе пісьменнікі замежжа. Міхась Кавыль у вершах «Сакавіковая ноч» і «Дзень той прыйдзе» – вершах-прадказаннях светлага прыйсця, якое трэба так гукаць, каб «пачуў, каму трэба пачуць на ўсёй маці-зямлі», сцвярджаў: «Дзень той прыйдзе, як сонца».

У Кавыля ёсць і паэма «Міжагнеўе», якую аўтар прысвяціў змагарам за незалежную Беларусь і дзе выказаў веру, што беларусы пераадолеюць «дзіды жыцця, стануць гаспадарамі сваёй хаты і будзе жыць Беларусь», бо з імі Бог і непераможная любоў да Радзімы, адвечныя сімвалы беларускай зямлі – высокія чыстыя парыванні яе сыноў да нацыянальнай незалежнасці і шляхі да волі, палітыя крывёю незлічаных ахвяраў.

Алесь Салавей, паэт з ласкі божае, якога выгнанніцкі лёс закінуў у далёкую Аўстралію, прысвяціў п’есу Сакавіковым угодкам, якія святкаваліся ў Мельбурне.

Раз і назаўсёды прысягнуўшы Бацькаўшчыне, яе нацыянальным сімвалам, роднай мове, ідэям беларускасці, незалежнасці, пісьменнікі-беларусы і ў далёкім замежжы жылі імі, увасаблялі ў сваёй творчасці. Гераічна-патрыятычныя апавяданні, аповесці, успаміны, вершы паэтаў, празаікаў замежжа і сёння гучаць надзвычай надзённа, яны вярнуліся на Бацькаўшчыну і актыўна спрыяюць выхаванню нацыянальнай свядомасці беларусаў. У вершы «Дай, добры Кон» Н.Арсеннева, як і многія іншыя паэты, горача моліць Бога і добрага Кона не даць душам суайчыннікаў астыць, апусціць крылы:

Нас доўга лёс касіў...
Мы ходаліся з доляй,
Стаўлялі ўздоўж усіх дарог
зямлі крыжы,
Кахалі Родны Край, хто колькі
й як здолеў,
Жылі, каб паміраць...
...
Чакайце ж, верце, прыйдзе Ён,
Вялікі дзень і ў нашу хату.
Пашле і нам нарэшце свята
дзіўны нязнаны Божы Кон!

**Мікола ВЯРБА**

### Паніхіда

Памяці паўшых нязнаных Сыноў Беларусі
ў абароне яе Вольнасці прысвячаецца:

Паўшаму ў выгнанні – вернаму сыну Беларусі,
Першаму Прэзідэнту
Беларускай Народнай
Рэспублікі Пятру Крэчэўскаму.

Паўшаму ў няволі – вернаму сыну Беларусі
другому Прэзідэнту БНР –
Васілю Захарку.

Паўшым верным Сынам –
пастраляным, павешаным,
жывымі спаленым за тое,
што зваліся Беларусмі на
роднай беларускай зямельцы,
верным сынам Беларусам, замучаным
у ссылках халоднага Сібіру,
Калымы, Салаўкоў, Беламор-Каналу,
без страху адышоўшым ад жыцця ў
канцлагерах Картузскае Бярозы,
замучаным маральна ў Лукішках,
паўшым смерцю мучанікаў у Дахау,
Маўтхаузэне, Бухенвальдзе,

Паўшым верным Сынам –
у жорсткіх баёх за Волю Народаў
пад Нарвікам, Монтэ-Касына
жыццё сваё злажыўшых,
каб мы жылі...

Божа Ўсяўладны!
Адзіны ты стварыў усе народы вольнымі.
Мы просім Цябе:
дай нам вольную Бацькаўшчыну.
Чакаем мы вясны. Другой вясны сваёй,
Што нам надаў Магутны Сакавік.

**Уладзімір Дудзіцкі**

### Дваццаць пяты

Ускрэсла Бацькаўшчына ў светла Дзень святы,
і волі сцяг узняты быў над родным Краем,
Каб ліхадзей – злы дух, вятры і золь слабы –
душы і сэрцаў нашых не каралі.

О векапомны Дзень! З магіл, і з курганоў
Сівых ірвецца стогн ахвяраў часу злога...
І сёння, як калісь, калянае радно
Калышуць хвалі над распятым логам...

Сацьмее ў разні, спрахнее наша смерць,
і сцішыць грэшніцкія горды крокі.
Ня кроў – зямля апаленую медзь
Зальле пітвом Сакавіковых сокаў.

Ні сіла наймітаў, ні блуд, ні звады змоў
ня зганьбяць славы колішняй у час дрыготкі:
ўпісана яна ў схоў тугіх тамоў
гісторыі крывёй гарачай продкаў.

**Янка Золак**

### Дваццаць пяты дзень Сакавіка

У прыгожы ясны дзень вясновы –
Дваццаць пяты дзень сакавіка, –
Тоўсты лёд, бы ржавыя аковы,
Разарвала бурная рака.

Застагналі з енкам крыгі лёду
У струменях вольнае ракі...
Зазвінелі радасцю народу
У блакітных высях жаўрукі.

Беларускі люд, што быў закуты,
Зрабаваны сілай чужака, –
Разарваў свае няволі путы
У дваццаць пяты дзень Сакавіка.

Засвяціла сонца ў беларусу...
Толькі б жыць і цешыцца вясной;
Ды навокал носьбіты прымусу
Зноў вілі нам церневы вянок.

Ня судзіў нам лёс... І край гаротны
Ні вясны, ні волі ня ўтрымаў.
Зноў прыйшлі к нам хваляю зваротнай
Чужакі, няволя і зіма.

Цісне сівер... Ды рака пад лёдам
Набірае сілу да вясны.
Не зламана воля ў народа
Скінуць з плеч прымусу кайданы.

Вернецца яшчэ той дзень вясновы
Дваццаць пяты дзень Сакавіка!
Зноў няволі нашае аковы
Разарве народная рака.

**Публікацыю падрыхтавала
Лідзія САВІК**

# Палітыка і інтэлігэнцыя




## *Не варта вінаваціць ў абыякавасьці беларускі народ, калі на абыякавасьць хварэе беларуская інтэлігэнцыя*

**Валер КАРБАЛЕВІЧ**
**палітолаг**

На фоне дынамічных пераменаў, якія адбываюцца ў апошні час у сьвеце і рэгіёне Цэнтральнай Эўропы, становіцца ўсё больш відавочным выпаданьне Беларусі з агульнасусьветных тэндэнцыяў. У апошнія восем гадоў Беларусь апынулася полем нецывілізаванага сацыяльнага экспэрыменту. Гаворка ідзе аб прынцыповай няжыцьцяздольнасьці сыстэмы. Створаная ў краіне мадэль няздольная працаваць без надзвычайных захадаў.

Выбарнасьць і зьмяняльнасьць улады – абавязковая умова існаваньня сучаснага соцыуму. А існуючы палітычны рэжым пазбаўляе наша грамадства магчымасьці выяўленьня і адбору сацыяльных альтэрнатываў, выбару аптымальнай мадэлі развіцьця. Ён заблякаваў механізмы карэктыроўкі памылковых рашэньняў улады. Гэта яшчэ раз засьведчылі прайшоўшыя мясцовыя выбары, якія не адпавядалі мінімальна неабходным дэмакратычным стандартам.

Ва ўмовах прававога бязмежжа вінаватымі перад дзяржаваю становяцца ўсе. У выніку па колькасьці зьняволеных на душу насельніцтва талерантная Беларусь займае пятае месца ў сьвеце (нядаўна было трэцяе). Права стала інструмэнтам палітычнай барацьбы.

Міжнародная ізаляцыя ці, хутчэй, самаізаляцыя сталі візітоўкай нашай краіны. Сёньня ў гэта цяжка паверыць, але да 1994 г. у Беларусі не было ворагаў, з усімі дзяржавамі, найперш з суседзямі у нас былі нармальныя узаемавыгадныя стасункі. За прайшоўшыя восем гадоў краіна з міралюбівым і талерантным народам ухітрылася весьці бесперапынную прапагандыстскую і дыпляматычную вайну з ўсёй Эўропай і Захадам, сапсаваць дачыненьні з усімі суседнімі дзяржавамі. Нашай замежнай палітыцы ўвесь час спадарожнічаюць скандалы. Беларусь ледзь не уцягнулася у Косаўскі канфлікт у 1999 годзе. А зараз кіраўніцтва дзяржавы уцягвае краіну ў канфлікт паміж Іракам і ЗША.

Апошнія гады вышэйшая ўлада Беларусі ўпарта выштурхоўвае нашу дзяржаву з Эўропы ў Азію. Уступленьне нашых суседзяў у Эўразьвяз і НАТО, увядзеньне візавага рэжыму з краінамі Усходняй Эўропы стварае рэальную пагрозу ўзвядзеньня на нашых заходніх і паўночных межах новага Бярлінскага муру. Курс на сяброўства з міжнароднымі парыямі нельга патлумачыць ніякімі рацыянальнымі матывамі. Можна зразумець і паспачуваць тым народам, якія волею гістарычных абставінаў апынуліся па-за межамі найбольш развітага рэгёну сьвету. Але сьвядомая адмова інтэгравацца ў эўрапейскую супольнасьць, выбар свайго месца сярод краінаў трэцяга сьвету – зьява ў сусветнай гісторыі дастаткова ўнікальная.

Дачыненьні з Расеяй патрэбна вызваліць ад палітычных спекуляцыяў і паставіць на рацыянальны грунт добрасуседства і узаемавыгаднага супрацоўніцтва дзвюх суверэнных краінаў. Беларуская дзяржаўнасьць зьяўляецца нашай важнейшай каштоўнасьцю, вялізарным гістарычным набыткам. Яе захаваньне і ўмацаваньне павінна быць галоўным нацыянальным інтарэсам, абавязкам усіх дзяржаўных інстытутаў, а гандаль незалежнасьцю – антыдзяржаўным злачынствам. Вялікай драмай беларускага народу сталася тое, што такая сьвятая для кожнай нацыі каштоўнасьць як дзяржаўны суверэнітэт стала разьменнай манетаю у ня вельмі сумленнай палітычнай гульні кіраўніцтва Беларусі. Для яго незалежнасьць – гэта каштоўны тавар, капітал, які яно выкарыстоўвае для вырашэньня асабістых палітычных задачаў. А народ, грамадства ніяк не удзельнічае ў вырашэньні свайго ўласнага лёсу.

Палітычная інтэграцыя, стварэньне «саюза» альбо так званай «саюзнай дзяржавы», зьяўляюцца небяспечнай гульнёй, таму што стварае палітычныя і ідэалягічныя перадумовы для страты незалежнасьці. Абяцаны пераход на расейскія грошы азначае страту эканамічнага суверэнітэту краіны.

**Пераход на расейскі рубель, як і рэфэрэндум аб аб’яднаньні дзвюх дзяржаваў, і выбары «саюзнага парляменту» супярэчаць Канстытуцыі Беларусі**

Беларусь павінна выйсьці зь міжнароднай ізаляцыі, шукаць сяброў, а не ворагаў, стаць актыўным суб’ектам міжнароднай палітыкі, а не аб’ектам геапалітычнага суперніцтва. Неабходна вернуць слову «многавектарнасьць» яго сапраўднае значэньне. Ізаляцыя рэжыму Лукашэнкі не павінна ператварацца ў ізаляцыю краіны. Беларусі неабходна зрабіць гістарычны выбар аб інтэграцыі ў эўрапейскую супольнасьць, інакш кажучы, вернуцца на сваю гістарычную радзіму.

Такім чынам наша праблема ня столькі ў адставаньні ад іншых краінаў, колькі ў няправільным вектары развіцьця. Існуючы палітычны рэжым стаў крыніцаю небяспекі для беларускага соцыуму. Ён па вызначэньню няздольны адказаць на выклік часу, ажыцьцявіць рэформы і мадэрнізацыю, параход да постіндустрыяльнага грамадства.

У тым, што наша дзяржава апынулася у такім незайдросным стане ёсць віна і беларускай інтэлігэнцыі. Наперш патрэбна удакладніць, што пад словам «інтэлігэнцыя» я разумею не проста людзей з вышэйшай адукацыяй, ці занятых інтэлектуальнай працай. Галоўная адметнасьць інтэлігенцыі – гэта грамадзянская пазыцыя. Інтэлігэнты – гэта людзі, якія, з аднаго боку, адчуваюць сябе часткаю інтэлектуальнай карпарацыі, а з другога боку, гатовыя браць на сябе адказнасьць за лёс нацыі. Калі падыходзіць з такімі крытэрыямі да вызначэньня інтэлігенцыі, то гэта вельмі невялікая частка беларускага грамдзтва.




Тым ня менш на крутых гістарычных пераломах менавіта інтэлектуальная эліта здольная аказаць рашаючы уплыў на лёс краіны, на выбар кірунку яе разьвіцьця. Таму мы зараз можам і павінны самакрытычна прааналізаваць, што ня здолела зрабіць беларуская інтэлігенцыя хоць толькі за час незалежнага існаваньня.

Найперш, беларуская интэлігэнцыя ня толькі не змагла кансалідаваць народ вакол агульнанацыянальных мэтаў, яна не змагла кансалідавацца сама, не змагла стаць уплывовай карпаратыўнай групай, голас якой быў бы чутны грамадствам. Як вынік – раскол беларускага грамадзтва адносна фундаментальных светапоглядных каштоўнасьцей. Ён значна больш глыбокі, чым у іншых трансфармацыйных краінах. Таму што ў нас ён распаўсюджваецца на пытаньне існаваньня дзяржаўнасьці, цывізізацыйнага выбару, то бок базавых каштоўнасьцей, без дасягненьня згоды па якіх навогул немагчыма нармальнае існаваньне і разьвіцьцё соцыуму.

Па-другое, беларуская інтэлігенцыя не змагла прапанаваць грамадству рэальны праект разьвіцьця Беларусі, нацыянальную ідэю. Тут я хачу падкрэсьліць слова «рэальны». Таму што праекты былі і ёсьць. Але яны застаюцца творчасьцю вузкіх элітных групаў, ня сталі дзяржаўнымі праграмамі, элемэнтам масавай сьвядомасьці, ідэямі, якія б аб’яднälі народ. Як вынік, замест рэальных мадэлей разьвіцьця, грамадству навязваюцца міфалагэмы, накшталт ідэі інтэграцыі з Расеяй як сродка вырашэньня усіх нашых праблемаў.

Па-трэцяе, беларуская інтэлігэнцыя не змагла стаць часткаю палітычнай эліты, ці хоць бы уплываць на гэтую эліту ў кірунку абароны нацыянальных інтарэсаў. Зразумела ў дзяржаўным апараце працуюць людзі інтэлектуальнай працы, прафэсары і дактары навук. Але іх функцыя зводзіцца да абслугоўваньня рэжыму, а ня больш таго.

Па-чацьвёртае, беларуская інтэлігэнцыя не здолела стаць маральным аўтарытэтам у грамадзтве. Яна дапусьціла, што апосталы нацыянальнага духу, як, напрыклад, Васіль Быкаў, церпяць шэльмаваньне з боку афіцыйных СМІ, без усялякіх негатыўнях наступстваў для сваёй рэпутацыі з гледзішча грамадзтва.

На жаль, і ў асяродзьдзі самой інтэлігэнцыі ў пэўнай ступені прысутнічае так бы мовіць маральны плюралізм. Варта ўзгадаць толькі нядаўні пераклад на беларускую мову твора аднаго усходняга дыктатара.

Беларусь, у адрозненьні ад усіх сваіх суседзей, усё яшчэ стаіць перад гістарычным выбарам. Усё больш людзей разумее, што той выбар, які быў зроблены ў 1994 г., быў памылковым. Але паколькі грамадства не бачыць альтэрнатывы, увесь пратэст ідзе ў пустэчу, губляецца ў палітычным вакууме.

Таму гістарычная місія інтэлігэнцыі – даць народу альтэрнатыву. Калі беларуская інтэлігэнцыя выявіцца здольнай да гэтай вялікай справы і, не зважаючы на надзвычай неспрыяльныя ўмовы, якія ўвесь час спадарожнічалі ёй на працягу стагодзьдзяў, падымецца да вышэйшай гістарычнай творчасьці будаўніцтва сучаснай эўрапейскай дзяржавы, тады Беларусь будзе жыць.

# Любоў да сурагатаў




## Мастацтва, аб якім рупіцца ўлада, не можа належыць народу

Аляксей МАРАЧКІН,
мастак

Сапраўднае мастацтва не пад даецца інфляцыі. У цывілі заваным грамадстве, як за латы банкаўскі запас, назапашваецца багацце, назва якому - Мастацтва.

У гады дэмакратызацыі, калі творца вызваліўся ад путаў і дыктату бальшавіцкай партыі, калі мастак стаў больш свабодным, выявілася, з аднаго боку, разгубленасць перад самастойным выбарам, а з другога, - неабмежаваныя магчымасці пошукаў і сцвярджэння творчай асобы. Сёння цікавасць да выяўленчага мастацтва ўзрастае. Але пры гэтым заўважаем, як катастрафічна зніжаецца матэрыяльнае становішча грамадзян, якія б хацелі мець твор мастацтва ў сваёй кватэры ці калекцыі. Ды не могуць. **Фінансаванне ж на культуру адбываецца па астатачнаму прынцыпу.** Такім чынам, хочам мы таго ці не хочам, развіццё мастацтва залежыць як ад стаўлення ўладаў да творцаў, так і ад дабрабыту суграмадзян. І натуральна, калі творы не набываюцца ў Беларусі, то «рынак збыту» знаходзяць за мяжой.

Працэс фарміравання таленту мастака дадзенага Богам даволі доўгі і працяглы. Студыя, вучэльня, вышэйшая навучальная ўстанова. Ды не ўсё так бясхмарна на гэтай дзялянцы. Мы адзначаем крызісную сітуацыю ў галіне падрыхтоўкі спецыялістаў, мастакоў сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў. Нізкая заработная плата прафесарска-выкладчыцкага саставу. Адсутнасць належнай матэрыяльнай базы (асабліва ў Беларускай акадэміі мастацтваў), неабходнай для забеспячэння навучальнага працэсу, не адпавядае сённяшнім патрабаванням часу.

Міністэрства культуры РБ, мясцовыя ўлады стаяць убаку ад штодзённых праблемаў мастака. Пры будаўніцтве новых дамоў не прадугледжваюцца творчыя майстэрні. І спадзяванне маладога творцы атрымаць месца для працы, магчыма толькі пры ўмове, калі старэйшы яго калега адыдзе ў іншы свет, што стварае нездаровую атмасферу ў творчым саюзе. А між тым велізарныя грошы, якія маглі б вырашыць гэтую праблему, сёння кінуты на правядзенне сумніцельных святаў ды славянскіх базараў.

Плата за майстэрню, рабочае месца творцы, непамерна падвышаецца. Больш за тое, у **Законе аб творчых саюзах прадугледжваецца пункт, дзе мастацкая творчая дзейнасць прыраўніваецца да прадпрымальніцтва.** Скасоўваецца творчы стаж, хоць вядома, што праца мастака не абмяжоўваецца 8-гадзінным працоўным днём. Яна працягваецца і па выходных днях.

Каля 20 гадоў узводзіцца прыбудова да Нацыянальнага мастацкага музея, дзе мяркуецца пастаянная экспазіцыя беларускага мастацтва. У той час, як за год ці паўгады, будуюцца лядовыя палацы, крыты футбольны манеж. **Беларусь, бадай, адзіная краіна ў СНД, якая не мае пастаяннай экспазіцыі нацыянальнага мастацтва.** Многія мастакі так і не дачакаліся таго дня, каб убачыць свой твор у пастаяннай экспазіцыі галоўнага музея Рэспублікі. Шматлікія творы мастацтва не ў лепшых умовах, скручаныя ў рулоны, захоўваюцца ў запасніках і фондах музеяў, чакаюць свайго часу. На запланаванае будаўніцтва музея сучаснага мастацтва Міністэрства культуры ў апошнія гады не выдзяляе сродкаў. Фактычна будаўніцтва замарожана. У большасці сваёй адсутнічае дзяржаўны заказ на ўвядзенне помнікаў гістарычным асобам Беларусі. Помнік Францішка Скарыны, які планаваўся ў цэнтры сталіцы, каля Нацыянальнай акадэміі навук, ужо пераносіцца на ўскраіну горада і будзе ўстаноўлены на фоне «алмаза» - агромністага будынка нацыянальнай бібліятэкі, асяродка культуры, безумоўна, неабходнага для нашай краіны, але, на жаль, па свайму архітэктурнаму вобразу, дызайну, фармаўтварэнню, як заяўляюць спецыялісты, - уяўляе ўчарашні дзень, а не праект будучага. Трэба адзначыць, што рэалізацыя гэтага праекта праходзіла без абмеркавання шырокай грамадскасці, спецыялістаў. У той час як з гэтага грамадства патрабуюць грашовыя ахвяраванні.



У цэнтры сталіцы на плошчы Незалежнасці пры яе рэканструкцыі запланаваны праект манумента «Чалавек труда». Нешта падобнае ўжо было: «савецкі чалавек» з незабыўным лозунгам учарашняга дня «Слава труду». Гаворачы пра помнікі, будучае пакаленне так і будзе выхоўваца на вобразах Леніна, «чалавека труда», Фелікса Дзяржынскага ды Калініна. Да гэтага часу не ўсталявана мемарыяльная дошка на будынку, дзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. **На ўстаноўку мемарыяльнага знака Інбелкульту, адлітага ў бронзе, гарадскія ўлады не даюць дазволу.** Затое на сталічным Камароўскім рынку з'явілася бронзавая кабыла ды тоўстая цётка з торбаю. І гэта ўзор манументальнай прапаганды Міністэрства культуры Беларусі.

У краіне назіраюцца праявы цэнзуры, кантролю. З выстаў, як і ў савецкія часы, здымаюцца «неугодные» творы. Па ініцыятыве Міністэрства культуры і сталічнай улады ствараецца новая структура, у задачу якой уваходзіць кантроль за выставачнай дзейнасцю.

**Міністэрства культуры, яго экспертная камісія амаль поўнасцю ігнаруе закупку твораў мастацтва з выстаў, якія адбываюцца у галерэях краіны.** Асабліва гэта датычыць твораў маладых мастакоў. Нас непакоіць, што дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея і дырэктар Музея сучаснага мастацтва выведзены са складу экспертнай камісіі Міністэрства культуры. У той час як некаторыя старэйшыя мастакі яшчэ з савецкіх часоў з'яўляюцца пастаяннымі яе членамі і дыктуюць сваю палітыку ў экспертнай камісіі.

> **Плён нашых творцаў павінен стаць здабыткам усяго народа**

Калі мы гаворым, што талент належыць народу, то ці варта хаваць ад гэтага народу тое, што стварыў мастак. А дзеля гэтага **дзяржава не павінна скупіцца на выданні альбомаў, прысвечаных нашым выдатным жывапісцам, графікам, скульптарам.** І трэба вітаць тую ініцыятыву, якую праявіў Беллітфонд, заснаваўшы серыю «Мастакі Беларусі». Першы альбом з гэтай серыі «Язэп Драздовіч» ужо пабачыў свет.

Сёлета, 6 ліпеня, наш народ будзе святкаваць вялікую і ўнікальную дату - 750 гадоў ад часу каранацыі Вялікага князя Міндоўга на караля нашай старажытнай дзяржавы. У тыя далёкія часы войскі Міндоўга баранілі нашыя межы як з усходу, так і з захаду. Выстаялі націск няпрошаных гасцей і распачалі будаўніцтва новай дзяржавы. І гэтую дату, подзвіг нашага народа, неабходна ўвекавечыць у манументальнай прапагандзе.

**Мы прапануем нарэшце вызваліць беларускія плошчы ад бальшавіцкага і шавіністычнага мінулага, ад суворавых, ленінаў ды дзяржынскіх.**

На плошчы Незалежнасці сталіцы павінен паўстаць манумент каралю Міндоўгу альбо Кастусю Каліноўскаму. Гэтыя вобразы волатаў будуць яскрава ўвасабляць ідэю незалежнай краіны.

Помнік Міндоўгу павінен паўстаць і ў першай сталіцы Вялікага княства Літоўскага Навагрудку. На плошчах нашых гарадоў замест бальшавіцкіх істуканаў павінны паўстаць манументы нацыянальным героям: Вялікаму Вітаўту, Кастусю Астрожскаму, Францішку Скарыне, Тадэвушу Касцюшку, Кастусю Каліноўскаму, братам Луцкевічам. І гэты спіс можна доўжыць. Творчая суполка «Пагоня» распрацавала цэлую праграму па ўвекавечанні нацыянальных гістарычных асобаў.

І напрыканцы некалькі слоў пра сённяшнюю афіцыйную дзяржаўную сімволіку, яе ідэйную і эстэтычную вартасць. Вядома, што адными з галоўных атрыбутаў дзяржаўнасці з'яўляецца герб, сцяг і гімн. Чым больш старажытная, даўняя іх гісторыя, тым даражэйшыя яны для кожнага чалавека. У геральдычных выявах закладзены той адметны сакральны духоўны змест, які павінен надаваць народу гонар за сваю слаўную гісторыю, і што самае галоўнае - у іх закладзена перспектыва жыцця нацыі.

Пра сённяшнія дзяржаўныя сімвалы гэтага не скажаш. Але яны поўнасцю адпавядаюць абранаму шляху кіраўніка краіны, ягонаму імкненню рэстаўраваць учарашні дзень.

Да гэтага часу **мы не ведаем, хто аўтар, мастак сённяшняга дзяржаўнага бальшавіцкага герба, злёгку падпраўленага на свой густ.** Хаця, натуральна, здагадваемся, што гэта за асоба. Мы памятаем пра той нядаўні рэферэндум аб змене дзяржаўнай сімволікі, калі афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі тэндэнцыйна падавалі толькі адзін варыянт, так каньюнктурна неабходны абранаму кіраўніку краіны. І выклікае вялікі сумнеў, як людзі з глыбокімі хрысціянскімі традыцыямі маглі прагаласаваць супраць сакральных хрысціянскіх сімвалаў - бел-чырвона-белага сцяга (колеры Плашчаніцы Хрыста) і герба «Пагоні» - збройнага рыцара, вытокі выявы якога ідуць ад Архангела Міхаіла, Святога Юрыя, на шчыце якога крыж Еўфрасінні Полацкай. На гэты раз праваслаўны атэізм перамог. **Улады не прыслухаліся да прапаноў нашай інтэлігенцыі аб гімне краіны. Упэўнены, што з часам усё стане на сваё месца.**

# Асэнсаванні

## *Як узнік Цэнтр імя Францыска Скарыны і ці стане ён Інстытутам Беларусі*

**Адам МАЛЬДЗІС**








Славацкая Маціца ў горадзе Марціне. Гэтыя тры будынкі урад Славакіі аддаў пад Дом славацкай культуры (15-павярховы спецыяльна збудаваны)

Ідэя стварэння Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны ўзнікла і акрэслівася ў агульных абрысах восенню 1988 года ў цягніку Масква–Сафія.

Ехалі мы тады, беларуская дэлегацыя ў складзе каля 20 чалавек, і куды большая расійская дэлегацыя, на X Міжнародны з'езд славістаў. У Інстытуце літаратуры нашай Акадэміі навук, дзе я працаваў загадчыкам аддзела дакастрычніцкай літаратуры, якраз распрацоўвалася юбілейная Скарынаўская праграма. Праграма ішла цяжка, бо Скарына перакладаў і выдаваў далёка не Камуністычны маніфест, а, як тады казалі, опіум для народа. Энцыклапедыя і хацела, і баялася факсімільна выдаць Біблію Скарыны. І мая задача заключалася не столькі ў тым, каб прачытаць даклад «Францыск Скарына як прыхільнік збліжэння і ўзаемаразумення людзей і народаў», колькі ў тым, каб перавыданне Бібліі, як і сам юбілей, трапілі ў рэзалюцыю з'езда. Тады энцыклапедыстам развяжуцца рукі.

Мы разумелі, што без падтрымкі расійскіх славістаў тут нічога не выйдзе. Адзіная надзея была на Аляксея Каўку, нашага земляка, тады рэдактара часопіса «Советское славяноведение» і таму асобу даволі ўплывовую. Пазнаёміўся я з ім у Варшаве, у час Дзён беларускай літаратуры, што праводзіліся ў 1981 годзе пры ваенным становішчы. Ён тады працаваў у савецкім пасольстве, і гэта была яго ідэя правесці ў тых звышскладаных абставінах дні не рускай, а менавіта беларускай літаратуры. На здзіўленне тады, калі не лічыць двух інцыдэнтаў, усё прайшло паспяхова. Усе віншавалі Каўку з карысная для Савецкага Саюза задумай. І ніхто не падазраваў, што гэты гаваркі чалавек з'яўляецца аўтарам прабеларускага, патрыятычнага «Письма к русскому другу», якое ананімна выйшла ў Лондане і нарабіла многа шуму.

Аднак вярнуся ў цягнік Масква–Сафія. Не паспеў ён ад'ехаць ад Кіеўскага вакзала, як сустрэліся мы з Аляксеем на калідоры і пачалі акрэсліваць план дзеянняў. З рускіх удзельнікаў можна цвёрда разлічваць на Мікіту Талстога, з беларускіх – на Генадзя Цыхуна. Кіраўнікі дэлегацый не павінны нічога ведаць, бо могуць заблакіраваць. Першапачатковы тэкст прапаноў з'явіўся – як дыпламат – напісаў Каўка.

Назаўтра ў нашым купэ, дзе ехала чацвёра беларусаў, дзесьці пад Кіевам пачаліся гарачыя баталіі. Галоўны Гісторык даказваў мне і Уладзіміру Анічэнку з Гомеля (чацвёрты пасажыр захоўваў нейтралітэт і прыкідваўся, што дрэмле), нібы ўсё зло ідзе ад мясцовых патрыятызмаў. Патрэбны адзіны, савецкі. А дзеля гэтага ў чалавека не павінна быць сталага месца працы. Паўгода няхай паўкалвае ў Сібіры, паўгода – у Грузіі, паўгода – у Беларусі.

І тут зайшоў Каўка. Паздароўкаўшыся, але не прадставіўшыся, ён працягнуў мне папку:

– Няхайваспан пачытае. Тут... э... спрэчная рэцэнзія. Кінцье вокам: даваць ці не даваць, – і стомлена прысеў каля мяне, нібы абыякава прыслухоўваўся да дыскусіі. Праз мінут пятнаццаць рашуча абарваў Галоўнага Гісторыка.

– Выбачайце, але васпан гаворыць вялікае глупства. Так не патрыёты ўзгадуюцца, а перакаці-поле без роду і племені. Гультаі ўзгадуюцца, бо добра працуе толькі той, хто любіць сваю зямлю. А не чужую.

І – выйшаў годна. Галоўны ж Гісторык няўцямна глядзеў на мяне. Бо што гэты чалавек быў не з беларускай дэлегацыі, ён добра ведаў. Нарэшце, пераадолеўшы нешта ў самім сабе, задаў мне такое пытанне.

– Не ведаеце? – адказаў я. – Не ведаеце рэдактара ўплывовага выдання, пад якім усе мы ходзім? О, гэта вялікі дыпламат. І ў палітыцы, і ў навуцы, – але прозвішча я не назваў, часопіс – таксама.

Дарэчы, Галоўны Гісторык не забыў той паразы, як і адной публікацыі. Калі мяне другі раз угаварылі падаць дакументы на члена-карэспандэнта акадэміі, ён перад галасаваннем цвёрда выказаўся супраць.

Аднак вярнуся яшчэ раз у цягнік Масква–Сафія. назаўтра, ужо сярод балгарскіх стромкіх гор, мы зноў сустрэліся з Каўкам у калідоры суседняга вагона, унеслі змены і дапаўненні ў тую «рэцэнзію». Крыху задумаліся, ці не варта дадаць пункт пра стварэнне спецыяльнай навукова-асветнай установы імя Скарыны, якая займалася б вывучэннем спадчыны ўсходнеславянскага першадрукара, пашырэннем яе ў свеце. Бо хто ведае Скарыну? Усе ведаюць Фёдарава, які, кажуць, была брашура на Захадзе, таксама паходзіць з беларускіх земляў, са шляхты пад Навагрудкам, як сведчыць герб. І ўвогуле – паставіць перад тым асяродкам больш аб'ёмную мэту: пашырэнне беларускай культуры ў свеце, умацаванне культурных сувязяў з іншымі народамі і краінамі. Раўняцца, ствараючы такі цэнтр (добра памятаю: тады, у цягніку, упершыню прагучала вызначэнне: цэнтр), трэба на аналагічныя асяродкі іншых невялікіх славянскіх народаў – Маціцу сербскую, Маціцу славенскую, а найперш на Цэнтр імя Кірыла і Мяфодзія ў Сафіі, куды мы і едзем. Добра было б неяк атрымаць для ўзору статут таго цэнтра. Але ўносіць у рэзалюцыю пункт аб стварэнні такой установы не варта. Скажуць: гэта ўнутраная, арганізацыйная справа саміх беларусаў.

– Лепш, – параіў дасведчаны Аляксей, – самі, ад акадэміі, напішыце ліст у роднае ЦэКа. На ўсходнеславянскія інтарэсы зрабіце ўпор.

У Сафіі ўсё прайшло памысна. На мой даклад прыйшоў такі гісторык кніг, як Ганс Ротэ з Германіі, які тады загарэўся ідэяй зрабіць чацвёрты, каментарыйны том трохтомнага выдання скарынаўскай Бібліі. Гэты том з маёй прадмовай пабачыў свет у Боне ў канцы 2002 года... Прыйшоў Мошэ Альтбаўэр з Ізраіля, які тады рыхтаваў выданне Пяцікніжжа, перакладзенае на старажытна-беларускую мову ў віленскім габрэйскім асяроддзі ў часы Скарыны і, можа, не без яго інспірацыі. Гэтае Пяцікніжжа потым спецыяльна прывёз у Цэнтр Скарыны пасол Ізраіля ў Беларусі... З кангрэса ж славістаў помніцца яшчэ, як мы з Каўкам і, здаецца, яшчэ з Цыхуном прабіваліся на заключным пасяджэнні за кулісы, каб перадаць у прэзідыум, старшыні Аргкамітэта Тодару Бояджыеву, дапаўненні ў рэзалюцыю пра скарынаўскі юбілей. Потым кіраўнік нашай дэлегацыі, Галоўны Літаратар, доўга глядзеў на мяне коса, што нібы абышлі яго. Але непасрэдна перадаваў... Каўка. А беларускім уладам ён быў непадуладны...

У наступным, 1989 годзе, калі ў Мінск прыйшла, натуральна праз Маскву, рэзалюцыя X Міжнароднага з'езда славістаў, зрушылася з месца выданне трохтомнай Бібліі Скарыны. Яна паспела да юбілейных урачыстасцяў. Яны праходзілі ў Мінску, дзе адбылася міжнародная навуковая сесія (яе матэрыялы пазней мы выдалі ў «Беларусіцы-1»), Полацку, Празе, Парыжы (у штаб-кватэры ЮНЕСКО), Маскве (Калонная зала), Вільнюсе (цяперашні Прэзідэнцкі палац), Варшаве, урэшце ў Нью-Йорку. У апошніх чатырох імпрэзах мне пашчасціла ўдзельнічаць. Нью-Йоркскі вечар адбыўся ў клубе ААН. Памятаецца, тады першы і апошні раз неяк асмеліўся выступіць на ангельскай мове. Дзякуючы Генадзю Бураўкіну, які ўзначальваў беларускае прадстаўніцтва пры ААН і нармальна кантактаваўся з так званымі бебурнацамі, на вечар упершыню так тлумна прыбыла, выклікаючы зайздрасць украінская прадстаўніцтва, беларуская дыяспара на чале з Антонам Шукелайцам, Янкам Запруднікам, Янінай Каханоўскай, бабуляй Данчыка і спадарствам Кіпелямі. З Канады прыехаў нашчадак Скарыны лекар, філосаф і кампазітар Станіслаў Стэнлі-Скарына. Падбадзёраны «Белавежскай», ён спрытна выганцоўваў потым са сваёй маладой жонкай.

І на ўсіх імпрэзах ужо ўхвальна і канкрэтна гаварылася пра будучы Цэнтр імя Скарыны. Перадаваліся яму кнігі, дакументы, памяткі, якія цяпер стаяць у музейнай экспазіцыі «Беларусы ў свеце». У канцы 1990 г. нарэшце прыйшло зверху дабро на стварэнне пры Інстытуце літаратуры часовага навуковага калектыву па арганізацыі Цэнтра, выпрацоўцы яго канцэпцыі, у калектыў перайшлі Уладзімір Конан, Вячаслаў Рагойша, Лідзія Кулажанка, Захар Шыбека, потым – Генадзь Цыхун. Супольна распрацавалі планы. І чакалі, што вось-вось прэзідыум акадэміі прыме канчатковае рашэнне. Але тут у жніўні 1991 г. у Маскве выдаўся гэкачэпоўскі путч. Пачуўшы пра яго, адзін з кіраўнікоў акадэміі адразу паехаў у Савет Міністраў і сказаў там:

– Які можа быць Нацыянальны цэнтр?! Трэба хутчэй прыкрыць гэтых нацдэмаў!

І пачалі прыкрываць ужо. Але тут гэкачэпоўцы пацярпелі паражэнне. І кола імгнення, страх жа ўсімі яшчэ кіраваў, закруцілася ў адваротным кірунку. Прэзідэнт акадэміі Расціслаў Платонаў блаславіў нас у добры шлях. Пашкадаваў толькі, што ў Акадэміі мала сродкаў – трэба нам ісці пад крыло Савета Міністраў, становішча, як у тых балгараў, міжведамаснай установай, выконваць агульнанацыянальныя функцыі.

Пашкадаваў таксама, што ў галоўным корпусе акадэміі цесна. Папрасіце, мауляў, каб вас у новым доме палітасветы пасялілі.

– Не, – рашуча адмовіўся я. – Там мы будзем адчуваць сябе неяк... няўтульна. Паспрабуем выпрасіць стары будынак былога Інстытута беларускай культуры. Там жа, на Рэвалюцыйнай, 15, пачыналася наша навука. Адтуль, дарэчы, бярэ свой адлік і Акадэмія навук. Бо ў 1928 годзе ІБК быў рэарганізаваны ў Беларускую акадэмію навук. Значыць, наша акадэмія на самай справе на шэсць год старэйшая, чым сёння лічыцца.

– Добра – добра, – перабіў той, хто ездзіў у Савет Міністраў. – Але нашто вам цэлы трохпавярховы будынак?

– Як нашто? Трэба ствараць Усебеларускі дом. Па прыкладу маціцаў. І для сябе, і для дыяспары.

Праз два гады, у час XI Міжнароднага з'езду славістаў у Браціславе, мне пашчасціла пабываць у адной з такіх маціцаў – славацкай, у горадзе Марціне. І пазайздросціць славакам: толькі-толькі здабылі незалежнасць. І адразу, ці не ў першую чаргу ўзвялі пятнаццаціпавярховую будыніну, забяспечылі каля паўтары (!) тысячы супрацоўнікаў сучаснай тэхнікай (а мы тады ледзь здабылі першы прымітыўны камп'ютэр) і паставілі першачарговыя задачы: наладзіць інфармацыйную сістэму, удасканаліць бібліяграфічную службу і выдаць шматтомны біяграфічны слоўнік – каб відалася, каго і што далі славакі свету і чалавецтву.

Заканчэнне будзе



Будынак, у якім месціўся Інстытут беларускай культуры, а цяпер у некалькіх пакоях цесніцца Скарынінскі цэнтр (Мінск, Рэвалюцыйная, 15)

# Сталін сканаў, справа яго жывая



Карыкатура канца 1940-х гадоў з эмігранцкай прэсы. У БССР за такі малюнак далі б не менш, чым расстрэл

6 сакавіка ініцыятыва «За ўратаванне Курапатаў» склікала «круглы стол» навукоўцаў з нагоды 50-годдзя з дня смерці Іосіфа Сталіна. Сама гэткая рэакцыя на даўнюю падзею азначае неявыразнасць у пытаннях стаўлення нашага грамадства да таталітарызму, безумоўную актыўнасць адэптаў сталіншчыны, якія намагаюцца рэанімаваць ідэалы «цвёрдай рукі», неабходнасць ахвяраў, жорсткасць аднастайнага мыслення, затаптаць праўду аб злачынствах сталінскага рэжыму.

Прафесар Юры Хадыка, які адкрыў паседжанне, падзяліўся ўспамінамі дзяцінства, датычнымі гэтай даты. Ён расказаў, як 50 год таму разам з усімі перажываў смерць правадыра, выступаў на сходзе ў школе і нават, абвязаўшы чорнай стужкай руку, стаў у жалобную вахту. «Так было, пакуль бацька не прыйшоў і не пасмяяўся з мяне», – дадаў Юры Хадыка.

Прысутныя навукоўцы, палітыкі і гісторыкі акрэслілі, што праблема выходзіць далёка за межы гістарычнага зместу даты. «І гаворка нават не аб тым, што таталітарызм у Беларусі мае даволі сучасны выгляд і прыжыўся як нідзе ў Еўропе. Зараз высвятляецца, што рухацца наперад цяжка, калі ты не разабраўся з тым, што засталося ў мінулым, і паўвека без Сталіна не былі паўвека без сталінізму», – сказаў адзін з удзельнікаў «круглага стала». Маштаб чалавечых стратаў, якія літаральна абяскровілі краіну, дагэтуль да канца невядомыя і неўсвядомленыя. Неўсвядомленыя ў шырокіх слаях народа і духоўныя страты Беларусі, якімі адгукнулася панаванне бальшавіцкай (па сутнасці, сталінскай) партыі.

У часы перабудовы ва ўсім СССР вяліся бурлівыя спрэчкі па нязначнай тэме: добры быў Сталін ці благі, тыран, геній ці геніяльны злодзей. Гэтая падмена абмеркавання хібаў грамадскага ладу абмеркаваннем асабістых якасцяў асобы абсалютна засланіла для большыні сутнасць праблемы. Замест таго, каб перайсці на новы ўзровень усведамлення сталінскай эпохі і яе наступстваў, быў абраны самы просты варыянт – «схаваць галаву ў пясок», каб не было жудасна ад жахаў савецкіх канцлагераў, расстрэлаў, забойстваў, рабунку і хлусні. Улада не раскаялася, не былі створаны механізмы абароны грамадства ад аўтарытарызму. Галоўная крытыка прыпала на планавую дзяржаўную эканоміку, якую актыўныя дзялкі пачалі трансфамаваць у капіталістычную, хутка апынуўшыся ў вышэйшым класе. Астатнія грамадскія інстытуцыі, пабыўшы ў дэмакратычным паветры, пакрысе вяртаюцца ў ранейшы стан татальнай падначаленасці правячай групоўкі.

Па краінах былога СССР, апроч прыбалтыйскіх рэспублік, зараз больш за 50% насельніцтва лічаць Сталіна выдатным дзяржаўным дзеячам і сумуюць, што яго эпоха скончылася. Прыкладам, расейская газета «Правда» на дзвюх старонках апублікавала артыкул «Постижение Сталина», у якім у ружовым асвятленні апісваецца, як «вялікі правадыр» змагаўся з «ворагамі Расіі». У барацьбе такога маштабу, на думку газеты, канешне былі нявінныя ахвяры, але гэта гістарычная непазбежнасць. Перадачы па расійскім тэлебачанні ў «сталінскія» дні мелі выразны акцэнт на рэабілітацыю, дэманстаравалася «чалавечае вымярэнне дыктатара». «Я думаю, што гэта дрэнная прыкмета таго, што мы зноў вяртаемся да мінулага», – кажа гісторык Ігар Кузняцоў.

Сталін і яго дзейнасць цесна звязаныя з Беларуссю, і дэфармацыі той эпохі добра захаваліся да нашых дзён. Мы жывем наступствамі ніведіравання нацыянальных асаблівасцяў і такім чынам знішчанай нацыянальнай самасвядомасці. У некаторых такая самасвядомасць развілася са знакам мінус. Усе роўныя, кожны – ніхто. Гэты эксперымент выдатна атрымаўся на беларусах.

Памыляюцца тыя, хто лічыць што сталінізм сябе вычарпаў, што гэта неактуальна і нашых людзей гэта не цікавіць. Пакуль не будзе асэнсаваны разбуральны ўплыў таталітарызму на духоўнасць грамадства, не выказаны словы раскаяння аб забітых і страчаным, у народа няма будучыні, бо яго прымусяць жыць мінулым.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Палёгка для лёгкіх

## *Балоты – гэта цуд створаны Богам, які мы імнуліся ператварыць у пясчаную пустку*

«Балоты ў пяць разоў лепш за лясы ачышчаюць паветра ... Беларускае Палессе – лёгкія Еўропы ...,» – гэтыя фразы з тэлевізійнай рэкламы штодня нагадваюць нам пра ранейшае багацце роднага краю. Ці магчыма аднавіць страчанае прыроднае асяроддзе пры дапамозе сучасных тэхналогіяў?

### Меліярацыя

Палессе – тэрыторыя самых вялікіх у Еўропе балотаў. Маштабнае асваенне гэтых земляў пачалося ў 1960-я гады. Тады Палессе выкарыстоўвалася выключна для дабычы торфу, які шоў на паліва і на патрэбы сельскай гаспадаркі. Дрыгва разглядалася не як унікальнае прыроднае стварэнне, падараванае прыродай, а хутчэй як перашкода на шляху да «светлай будучыні».

Агульная тэрыторыя Палесся складае 6 мільёнаў га, і больш чым палова з іх – гэта балоты ці моцназабалочаныя землі. Для таго каб прыцягнуць гэтыя землі для сельскагаспадарчага і прамысловага выкарыстання, зрабіць іх, як тады здавалася мноству валюнтарыстаў, «карыснымі» для народнай эканомікі, скарысталі меліярацыю.

Неўзабаве амаль 50% агульнай сельскагаспадарчай прадукцыі ў краіне пачалі даваць асушаныя тэрыторыі. Гэта выклікала ў дакладах шмат радасці адносна розуму партыі і вышэйшага начальства. Хуткі поспех перашкаджаў задумацца пра благія наступствы, а яны не прымусілі сябе чакаць: паказальнік урадлівасці, насуперак ружовым разлікам, з кожным годам скарачаўся.

Сёння прычына шматлікіх негатыўных з'яваў у Палессі сёння – дэградацыі зямель, апустыньвання і нават пяшчаных бураў – гэта вынік выпрацоўкі арганічнага слоя, кажучы проста – торфу. Там, дзе раней не было бачна гарызонта з-за лясоў і буйной расліннасці, зараз вецер ганяе пясок. Такой зямлі зараз ужо каля 200 тысяч га. Гэта складае дзесятую частку ад усіх асушаных тэрыторый, якія таксама паступова ператвараюцца ў пустыню.

### А як у іх?

Цікавасць еўрапейцаў да нашых балотаў абумоўлена унікальнасцю нашай прыроды.

Аказваецца, на Захадзе такіх экалагічных сістэм не засталося. Тарфяныя тэрыторыі Захаду невялікія і ўжо амаль цалкам спрацаваныя. Тым часам як Беларусь яшчэ захавала такое багацце ў не надта кранутым стане, з натуральным прыродным асяроддзем. Расліны, жывёлы і птушкі, для якіх перанасычаныя вільгаццю лясы – гэта ўмова выжывання, засталіся толькі у нас. Гэта унікальная біялагічная рознастайнасць прымусіла еўрапейскіх эколагаў звярнуць сваю пільную ўвагу на Беларусь.

«Зараз сумесна з ЮНЕСКО мы хочам распрацаваць экалагічную сетку рэспублікі і экалагічную сетку Палесся. Мэта ўсёй гэтай працы, каб экалагічная сістэма Палесся была інтэграваная ў еўрапейскую экалагічную сетку. Гэта вельмі лагічна, бо прырода не падпарадкоўваецца межам дзяржаваў і мае свае законы і правілы, ад якіх залежым мы ўсе,» – кажуць у НАН РБ.

### Перспектывы

Вярнуць землі, моцна сапсаваныя меліярацыяй, у першапачатковы выгляд, нават пры дапамозе паўторнага забалочвання, вельмі складана. Аднак такую працу ў Акадэміі навук Беларусі цяпер плануюць. Недзе працэсы забалочвання ідуць натуральным шляхам, бо, калі не даглядаць асушальныя сістэмы, яны зарастаюць, і прырода паціху сама аднаўляе пашкоджаную біясістэму.

Апошняе дзесяцігоддзе цалкам змяніла навуковы падыход да балотаў. Зараз з імі ўжо не змагаюцца, а спрабуюць захаваць і нарэшце дакладна вывучыць. «У выкарыстанні карысных выкапняў і асваенні балотаў, у прыватнасці, трэба памятаць адну істотную рэч, што мы бяром гэта у доўг у нашых нашчадкаў, – слушна заўважаюць супрацоўнікі Інстытута біялогіі НАН РБ. – З іншага боку трэба канстатаваць, што мы ўжо ніколі не атрымаем тую прыроду, якая была да пачатку меліярацыі. Таму нашая мэта сёння, прынамсі, не рабіць памылак у будучым».

Днямі ва ўрад краіны ўнесена прапанова аб стварэнні новага нацыянальнага парку – «Прыбугскае Палессе». Гэты парк павінен стаць у адзін шэраг з вядомым Бярэзінскім запаведнікам, а таксама разам з Палесскім Народным паркам у Польшчы і Шацкім Нацыянальным паркам ва Украіне. Менавіта з гэтымі паркамі балоты беларускага Палесся павінны скласці міжнародны экалагічны запаведнік, частка якога будзе знаходзіцца ў Брэсцкай вобласці. У гэтым біялагічным ландшафтным рэзервацe будуць на міжнародным узроўні вывучацца працэсы, якія характэрныя для балотаў у натуральным стане. Пры дапамозе міжнародных экалагічных арганізацый у Беларусі плануюць апрабіраваць новую сістэму забалочвання некалі асушаных тэрыторый.

### Даведка

8% тэрыторыі Беларусі аб'яўлена тэрыторыямі, якія ахоўваюцца ў спецыяльным рэжыме, – гэта нацыянальныя паркі, запаведнікі і заказнікі. Плануецца стварыць нацыянальны парк «Налібоцкая пушча», а таксама парк «Белая Русь» у раёне Лагойска.

На тэрыторыі Беларусі цяпер 3,5 мільёны га балот, пры тым, што агульная тэрыторыя краіны 20 мільёнаў га. Гэта перадусім тарфяныя балоты са спецыфічнай расліннасцю.

Тарфяныя радовішчы займаюць прыкладна 2,5 мільёны га, гэта, па падліках вучоных, каля 4,5 мільярдаў тон. За ўсе гады прамысловай дабычы выпрацавана было каля 1 мільярда тон. Торф, як і большасць карысных выкапняў, адносіцца да ліку неўзнаўляемых прыродных выкапняў. Расце тарфяны пласт з хуткасцю прыкладна 1 мм на год. Такім чынам, для двухмятровага прамысловага радовішча трэба не менш чым 2–3 тысячы год. Тарфяныя выкапні фармуюцца і ў гэты момант, там, дзе для гэтага ёсць адпаведныя ўмовы.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Свядомасць «тутэйшых»

## Поп–відовішчы для поп–народа

Назва «тутэйшыя» ў дачыненні да жыхароў Беларусі захавалася па сёння дзякуючы аднайменнай п'есе Янкі Купалы. Яе жанр аўтар вызначыў так: «трагічна-смяшлівыя сцэны». Па стылёвым выкананні гэты твор – камедыя. у некаторых эпізодах з'едліва саркастычная, а па сутнасці – трагедыя. Свой глыбока прыхаваны «смяшлівай» формай боль за лёс роднага народа Янка Купала выказаў толькі адным словам у жанравым азначэнні п'есы.

Пра вялікага песняра нашай бацькаўшчыны ў адным з артыкулаў Уладзімір Гніламёдаў вельмі дакладна сказаў: «Ён адкрыў Беларусь». У прыватнасці, у «Тутэйшых» Янка Купала мужна паказаў і не надта прывабную рысу роднага народа – яго нізкую нацыянальную самасвядомасць. Ён бязлітасна выкрыў сапраўдную сутнасць знакамітай беларускай «памяркоўнасці», якая на практыцы абарочваецца бессаромна шчырым прыстасавальніцтвам ці звычайным канфармізмам, што ёсць красамоўнай выявай адсутнасці пачуцця ўласнай годнасці, прынамсі, адчування перад усім сваёй нацыянальнай беларускай годнасці. Напісаная на пачатку мінулага стагоддзя, п'еса сваім зместам, тыпажамі вельмі сугучная і сучаснай беларускай рэчаіснасці.

Ужо даўно агульным месцам сталася ісціна, што нацыянальную тоеснасць народа перш за ўсё вызначае менавіта мова. Як форма мыслення менавіта яна перадае непаўторныя нацыянальныя адметнасці светаадчування, светаўспрымання, светаразумення чалавека. Калі ж ён лічыць сябе беларусам, а гаворыць заўсёды па-расейску, то ён у сапраўднасці ўжо не беларус (гаворыць па-расейску) і яшчэ не рускі (далучае сябе да беларусаў), а проста «тутэйшы», бо не мае выразнай нацыянальнай самаіндэфікацыі, бо насамрэч абыякавы да яе.

### Ток–шоу

Гэта, напрыклад, яскрава выявіла адна з лютаўскіх перадачаў ток-шоу «Выбар» на канале АНТ, прысвечаная абмеркаванню тэмы «Ці стане беларуская мова асноўнай у нашай краіне?» На пытанне «Ці неабходнае веданне беларускай мовы жыхарам Беларусі?» 35% гледачоў перадачы адказалі, што такой патрэбы няма, 65% – што ўсё ж родную мову ведаць трэба. Але, паводле сацыялагічных апытанняў, пра якія паведаміла адна з удзельніц ток-шоу, у паўсядзённым жыцці па-беларуску гаворыць толькі недзе ад 1,5% да 3% насельніцтва краіны. Тая частка апанентаў на перадачы, якая выконвала ролю «песімістаў», прызнала такое становішча з беларускай мовай у сучасных грамадскіх умовах зусім натуральным. А адна з іх – Раіса Міронччыкава – наогул не ўбачыла нічога заганнага ў тым, што беларусы пераважна ўжываюць мову, больш ці менш падобную да расейскай, маўляў, хай гавораць як умеюць, хоць бы і на «трасянцы».

Такая пазіцыя цалкам адпавядае «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека». Згодна з ёю, кожны вольны гаварыць як хоча. Але ж разважанні Міронччыкавай чамусьці міжволі выклікаюць згадку пра больш шчырае і акрэсленае выказванне на гэтую тэму галоўнага героя «Тутэйшых» Купалы: «Не маючы што рабіць, інтэрнацыянальная інтэлігенцыя выдумала нейкі нацыянальны беларускі язык, а вы хацелі б заставіць нас, руска-ісцінную, медждзу протчым, інтэлігенцыю, сушыць над ім свае апошнія мазгі. Ха-ха-ха! Вось дык дадумаліся! Ха-ха-ха!»

На жаль, як гэта ні горка і балюча, словы героя Купалава твора дапасуюцца не толькі да многіх і многіх шараговых жыхароў нашай краіны, якія лічаць сябе беларусамі, але і да пераважнай большыні «беларускай» інтэлігенцыі, і да «нацыянальнага» чынавенства, за рэдкім выключэннем, хоць, здавалася б, менавіта дзяржаўныя чыноўнікі ў першую чаргу абавязаны выконваць Закон аб дзяржаўных мовах і свабодна валодаць абедзвюма. Нават вядучы ток-шоу «Выбар», сказаўшы некалькі фраз па-беларуску, хуценька зноў вярнуўся да расейскай мовы.

### За заслонай

Між тым, у нас вельмі заўважная ўлюблёнасць у азначэнне «нацыянальны». Яго прыляпляюць да назваў дзяржаўных устаноў дзе толькі мага: нацыянальная акадэмія навук, нацыянальныя тэатры, нацыянальная бібліятэка, нацыянальная кінастудыя, нацыянальнае тэлебачанне. Прыклад апошняга асабліва выразна паказвае той глыбокі разрыў, які існуе на беларусі паміж паняццямі «дзяржаўны» і «нацыянальны», хоць яны па змесце павінны былі б супадаць.

Тэлебачанне ў пэўным сэнсе ў любой краіне ўяўляе сабой, так бы мовіць, яе твар, малюе яе партрэт. Беларускае тэлебачанне падкрэслена ўпарта афіцыйна называюць нацыянальным, а не дзяржаўным. На ім пануе расейская мова, асабліва на каналах Сталічным і АНТ – там роднага слова наогул амаль не чуваць. Таму, як няўклюдна ні гучыць, дакладней яго называць так: беларускае расейскае нацыянальнае тэлебачанне.

Мы добра ведаем, што беларускае тэлебачанне цвёрда праводзіць дзяржаўную палітыку. Дзякуючы тэлевізійнаму экрану цудоўна высвятляецца – проста зрокава відаць, – што ў нас дзяржаўны інтарэс відавочна не супадае з нацыянальным беларускім, ён нават прама супрацьлеглы, знішчальны да апошняга. З дапамогай падмены словаў «дзяржаўны» на «нацыянальны» пацыху-патроху на ўзроўні падсвядомасці ўрабляецца глеба для трывалага засваення «тутэйшымі» даволі распаўсюджанай у Расеі думкі: расейцы і беларусы – адзін народ. У выніку ў нашых душах паступова фармуецца адчуванне, быццам гэта наша нацыянальная «тутэйшая» рыса – гаварыць, як расейцы, думаць, як яны, а іх інтарэсы – менавіта і ёсць нашымі нацыянальнымі інтарэсамі.

### Беларускае кіно?

На Беларусі такая дзяржаўная ідэалагічная палітыка незаўважна, але надзвычай паслядоўна праводзіцца на самых розных узроўнях, на розным, так бы мовіць, матэрыяле, г. зн. пры любой нагодзе. Для прыкладу возьмем яшчэ адну лютаўскую перадачу ток-шоу «Выбар», прысвечаную перспектывам развіцця «нацыянальнага» беларускага кінематографа. На ёй у якасці апанентаў, аптымістаў і песімістаў, выступалі дзеячы беларускага кіно. Выключна ўсе гаварылі па-расейску, акрамя беларускага драматурга Аляксея Дударава. Усе – нібыта ў пацвярджэнне колішняга трапнага выказвання кінарэжысёра А.Кудзіненкі, што «сучаснае беларускае кіно, па-першае, не сучаснае, па-другое, не беларускае, а па-трэцяе, не кіно ўвогуле». Пра тое, чаму фільмы, знятыя на беларускай кінастудыі, паводле выразу рэжысёра В.Нікіфарава, «падзелкі», ніякай – я не кажу ўжо, сур'ёзнай, прафесійнай, а падкрэсліваю – ніякай гаворкі не было. Так, гутарка «наогул», без доказаў і пераканальнай аргументацыі. Толькі Дудараў сарамліва-сцісла выказаўся, што беларускае кіно павінна было б паказваць «роднае, сваё», а што менавіта і як – па сціпласці, відаць, не ўдакладніў.

За яго гэта зрабіў, скіраваўшы ўвагу на самае галоўнае, асноватворнае, адзін з гледачоў у кінатэатры перад выязной камерай. На чысцейшай расейскай мове ён двойчы, акцэнтуючы сваю думку, паўтарыў: «Беларускае кіно павінна быць на беларускай мове». Усе ўдзельнікі перадачы далікатна не заўважылі гэтага меркавання.

Дык пра якое беларускае кіно ішла размова? Яно такое ж беларускае, як вядомы расейскі акцёр Гасцюхін – народны артыст Беларусі. Як беларускія рэжысёры, якія рэпетыцыі ў нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы праводзяць па-расейску, бо не лічаць патрэбным або няздольныя выказвацца па- беларуску. Як і многія артысты гэтага тэатра, якія працавалі ў ім усё жыццё, але так і не навучыліся не па тэксце на сцэне, а самастойна гаварыць на роднай мове.

### Узровень мастацкасці

Безумоўна, нягледзячы на ўсе абмежаванні вяшчання расейскіх каналаў на Беларусь, важнейшым складнікам дзяржаўнай палітыкі на нашым тэлебачанні па-ранейшаму застаецца арыентацыя на «вялікую расейскую культуру». А яна, як засведчыў серыял «Брыгада», не надта абцяжарвае сябе імкненнем да мастацкасці, ва ўсялякім разе у той прадукцыі, якая разлічана на простага гледача.

З антычных часоў да сёння сфармаваліся элементарна простыя аб'ектыўныя крытэры ацэнкі мастацкага твора. Першы важнейшы крытэрый – праўда. Таму мастацтва паклікана адлюстроўваць усё, што ёсць. Другі, паводле антычнай канцэпцыі, – дабрыня, згодна з выразам Льва Талстога, – выява аўтарам «маральнага стаўлення» да таго, што ён малюе.

Вельмі падобнае выразна бачна і ў лютаўскай перадачы Швыдкога «Культурная рэвалюцыя» на тэму «Мастацтва не належыць народу». У якасці антытэзы вядучы адмыслова, мэтава згадаў вядомы лозунг «Мастацтва павінна належаць народу». У выніку выклікаў бязладзіцу ў меркаваннях, выказваннях удзельнікаў дыскусіі. Разважаючы пра мастацтва і народ, выступоўцы ўкладвалі ў гэтыя словы розныя сэнсавыя адценні і гаварылі пра розныя рэчы.

Выраз «мастацтва павінна належаць народу» падкрэслівае культурна-асветную ідэю далучэння шырокіх народных мас праз адукацыю да здабыткаў сусветнага мастацтва, культуры. Выраз «мастацтва не належыць народу» скіроўвае ўвагу на навукова-тэарэтычны аналіз паняццяў «мастацтва» і «народ». Тое, што гэтыя выразы – не антытэза, цудоўна пацвярджае рэальная практыка вядомага тэатральнага рэжысёра Рамана Віцюка, які на ток-шоу абараняў сцвярджэнне, што мастацтва не належыць народу, што яно мае элітарны характар і г.д., карацей, абгрунтаваў сваю пазіцыю не надта навуковымі і вельмі прыблізнымі, недакладнымі аргументамі.

Якраз уначы, пасля «Культурнай рэвалюцыі» на тэлебачанні, па радыё паўтарылі перадачу, дзе распавядалася пра правядзенне Віцюком рэпетыцыі аднаго з спектакляў. Рэжысёр патрабаваў ад акцёраў выяўляць не свае разуменне ролі, а быць «перадатчыкамі вечнага розуму». Ён нагадваў пра тое, што тэатр паходзіць з абраду, культура – з культу. Як вядома, культавае, абрадавае дзейства здзяйснялася народам, для народа і, безумоўна, належала яму.

### Высновы

Мяркую, няцяжка пераканацца ў тым, што названыя інтэлектуальныя перадачы расейскага тэлебачання вельмі ўжо нагадваюць па характары іх правядзення легкадумныя забаўляльныя шоу, нешта накшталт, так бы мовіць, «попвідовішчаў для поп-народа».

Такое ж стаўленне да прадмета абмеркавання назіраецца і ў згаданых перадачах ток-шоу «Выбар» на АНТ.

**Эдуард САДАЎНІЧЫ**

### Відовішча



# Не народны транспарт

## *Беларус у булачную на таксі не ездзіць!*

Праз колькі год мы будзем адзначаць стогадовы юбілей гэтага сродку перасоўвання. 22 сакавіка 1907 года ва ўсім свеце лічыцца днём нараджэння сучаснага таксі. Натуральна, што таксі існавала і дагэтуль. Але ў гэты дзень яно набыло сучасныя цывілізаваныя рысы: упершыню ў Лондане пасажыр заплаціў кіроўцу, што называецца, «па лічыльніку». Раней таксіметраў у машынах не было, і аплата праезду вызначалася па дамоўленасці бакоў. А тут, зразумела, жаданні кіроўцы і магчымасці пасажыра супадалі не заўсёды.

### Еўрапейскія традыцыі

Насамрэч, таксі не такі ўжо і малады від транспарту, бо ягоная гісторыя бярэ пачатак ажно ад 18-га стагоддзя. Піянерамі сталі французы: менавіта ў Францыі быў заснаваны першы ў свеце двор конных экіпажаў. Размясціўся ён па суседстве з кляштарам святога Фіякра, таму за экіпажамі з таго двара і замацавалася назва «фіякры».

Час і аўтаматызацыя знешне і па сутнасці паціху змянілі «фіякры». На змену коням прыйшоў бензінавы рухавік, а спрэчкам аб аплаце за праезд паклала канец усталяванне ў машыне таксіметра. Першыя французскія таксі ўзялася выпускаць аўтамабільная фірма Renault. Яны былі нязменнага чырвона-зялёнага колеру, што вылучала іх сярод вераніцаў іншых аўто, а для кіроўцы ў іх заўсёды адводзілася месца наперадзе машыны па-за пасажырскім салонам. У тыя ж часы нарадзілася традыцыя сцяжком падаваць сігнал аб тым, што машына вольная: ён падняты – машына чакае пасажыра, апушчаны – месцаў няма.

У кансерватыўнай Англіі таксі-кэбы сталі ўжо фірменным стылем краіны. З'явіліся яны на ангельскіх дарогах у сярэдзіне 19-га стагоддзя, і тады гэта былі простыя конныя адкрытыя павозкі – кабрыялеты ці проста кэбы. З часам яны паступова трансфармаваліся да сучаснага выгляду. Але ва ўсе часы нязменнымі заставаліся дзве рэчы: месца кіроўцы заўсёды было наперадзе ад пасажырскага салону за перагародкай, а каля яго – месца для багажу, і нязменны чорны колер кэбаў. І вось толькі нядаўна кэбы сталі рознакаляровымі.

### Першы блін камяком

Першы беларускі таксіст з'явіўся на вуліцах Мінску ў 1906 годзе, што на год раней за Маскву. Ён быў досыць свядомым грамадзянінам і перад тым, як пачаць перавозіць людзей, звярнуўся за адпаведным дазволам да гарадскіх уладаў.

Аднак, першым жа разам праязджаючы па Мінску (гэта была сучасная вуліца Карла Маркса), таксіст уехаў у тэлеграфны слуп. Пацярпелі і пасажыры, і машына, а ў мінчукоў пасля гэтага здарэння цікавасці да новага віду транспарту паменела. Першы блін, як кажуць, выйшаў камяком. І гэты камяк спыніў развіццё мінскага таксі ажно на шэсць гадоў. Як сведчыць гісторыя, у 1913 годзе ў Мінску было толькі дзве машыны-таксі, калі ў той жа час у Лондане было 800 машынаў.

Прыход да ўлады бальшавікоў зусім знішчыў прыватнае возніцтва. Да сярэдзіны 1930-ых гадоў беларусам даводзілася перасоўвацца выключна на грамадскіх відах транспарту. Толькі ў 1936 годзе на вуліцы Мінска нарэшце выехалі першыя паўдзесятка таксовак, але тое ўжо было савецкае дзяржаўнае таксі. Пасля вайны на іх з'явіліся «шашачкі» і адмысловыя «зялёныя агеньчыкі». У 1965 годзе таксамотораў у Мінску было ўжо каля паўтысячы.

Сёння на гэтым рынку паслугаў у сталіцы працуюць паўтузіна арганізацыяў і асобныя кіроўцы, што маюць адмысловую ліцэнзію. А нядаўна ў Мінску нават з'явілася VIP-таксі. Ад звычайнага таксі яно адрозніваецца толькі тым, што яго можна выклікаць з мабільнага тэлефону, стоячы дзе-небудзь на прыпынку ў цэнтры горада. Акрамя таго, па такой «мабільнай» замове прыязджае толькі новая машына і вельмі хутка. А істотнай розніцы ў аплаце за праезд паміж звычайным і VIP-таксі няма.



### «Шашачкі» і паласа

Дарэчы, хуткім часам у беларускіх таксі, акрамя ўсім вядомых «шашачак», з'явіцца яшчэ адна прыкмета, па якой іх можна будзе адрозніць ад іншых аўто. У таксовак па баках цяпер мусіць быць жоўтая паласа. Першапачаткова Міністэрства транспарту мела намер пафарбаваць усе таксі ў жоўты колер на манер савецкіх таксі мадэлі «Волга». Але прыватныя перавозчыкі гэтай ідэі не падтрымалі і пагадзіліся толькі на жоўтую стужку. Застаецца спадзявацца, што і разлікі за паездку будуць на еўрапейскі ўзор – дакладна па лічыльніку.



**Алена ЛАБАНАВА**

# Красамоўствы Буша

## *выбраў у інтэрнеце знакаміты італьянскі пісьменнік Умберта Эко*

Калі мы не распачнем вайну, то рызыкуем прайграць.

Навакольнаму асяроддзю пагражае не забраджванне, а нечысціня вады і паветра.

Пра незаконнасць дзеянняў нам неабходна казаць так, быццам у нас яе няма.

Я маю намер захаваць выканаўчую ўладу не толькі за сабой, але і за маімі папярэднікамі.

Мы гатовыя весці працу з абодвума бакамі, каб знізіць узровень тэрору да ўзроўню, прыдатнага для абодвух бакоў.

Самае вялікае дасягненне Амерыкі – кожны павінен галасаваць.

Мы жадаем, каб кожны, хто можа знайсці працу, быў здольны знайсці працу.

Шчыра кажучы, выкладчыкі – гэта адзіная прафесія, прадстаўнікі якой выкладаюць нашым дзецям.

Я ўпэўнены, што людзі і рыбы могуць весці мірнае суіснаванне.



Мы змарнавалі шмат часу, намагаючыся размаўляць з Афрыкай па справядлівасці. Афрыка – гэта нацыя, якая пакутвае ад неймавернага захворвання.

Прыродны газ – паўсферычны. Мне падабаецца гаварыць, што ён паўсферычны ў прыродзе, бо гэта тое, што мы можам сустрэць па суседству.

Я ведаю, што ў Вашынгтона шмат амбіцыяў. Гэта натуральна. Але спадзяюся, што тыя, хто поўны амбіцыяў, усведамляе, што працей перамагчы, калі табе спадарожнічае поспех, чым няўдача.

РП-1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету ~~часопіс~~ **63773** (індэкс выдання)

Новы Час (назва выдання)

Колькасць камплектаў

на *2003* год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | x | x | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс) (горад, населены пункт)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету ~~часопіс~~ **63773** (індэкс выдання)

Новы Час (назва выдання)

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| кошт | падпіскі | 2235 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

на *2003* год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | x | x | | | | | | |

Кому (прозвішча, ініцыялы)

Куда (адрас)

(почтовый индекс) (горад, населены пункт)

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас:220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: nchas@promedia.by

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
Камп`ютэрная вёрстка Андрэй Дзегцяроў
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія ЛП № 397 от 14.03.2001 г.
220004, Мінск, вул. Кальварыйская, 24. Замова № 255.
Падпісана да друку 18. 03. 2003 (12:00).
Наклад 2 200 асобнікаў. Кошт свабодны.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11